# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1798) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 28 КАСТРЫЧНІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.




Так выглядаў беларускі музей у Гайнаўцы ў пачатку кастрычніка 1990 года. На першым плане знаходзіцца будынак „Б". За ім, злева, відаць аднапавярховая частка „А", у якой наладжана першая выстаўка.

## Добра, што не страцілі мы часу!

**КАНСТАНЦІН МАЙСЕНЯ: „Я ад пачатку..."**

— Усе працавалі...

— Усе мы рабілі: і я, і Іванюк — дырэктар ліцэя, і яго вучні, і Васіль Сакоўскі, і Сяргей Харкевіч... Віцэ-дырэктар тэхнікума Мікалай Нікалаюк і яго вучні, Мікалай Клімюк, Аляксандр Бандарук, Янка Хіліманюк, Панцялей Мароз, Аляксандр Плева, Уладзімір Пятрочук, Янка Якімюк, Галена Ігнацюк, Еля Вішнеўская, Галіна Маліш, наш Ільля Агіевіч, Віктар Бура, інжынер Яраслаў Бура, солтыс з Пасталова Міхал Аверчук, Юрка Зюзя, Міхась Дулько... Кожны дапамагаў, як і чым мог! Я быў ад пачатку — ад 1983 года. Пачалі мы ад камплектавання дакументацыі; 3 гады. Будова распачалася ў 1986 годзе. Мне давалі тут штат — я не ўзяў граша за гэтую працу, бо ж трэба жабраваць кожны грош! Грошы давалі і даюць людзі, гаспадарчыя і грамадскія ўстановы, заграніца (больш 17 тысяч долараў). Цяпер беларускае таварыства „Радзіма" дапамагло нам надзвычайна, — намеснік старшыні Мікалай Васілёнак вельмі сардэчна і клапатліва падыходзіць да спраў музея. У Гродне прарэктар універсітэта Сяргей Габрусевіч (які адначасна з'яўляецца старшынёю Фонда беларускай культуры) і яго намеснік Надзея Труханович вельмі выдатна нам дапамагалі. Цяпер даецца з боку Беларусі велізарная дапамога — будаўнічыя матэрыялы і абсталяванне! Калі б не гэта дапамога, немагчыма было б цягнуць пабудову далей. Дары апераджаюць тэмп пабудовы, а на граніцы бываюць клопаты з таможнікамі і пагранічнікамі.

А „нашыя" людзі? Даюць транспарт, свой лес... Кераміка ў Ляўкове нядаўна дала на музей тысячу штук цаглін — цяпер трэба гэтую цэглу перавезці ў Гайнаўку, добра было б таксама грамадскім пачынам. Людзі прывозяць дошкі, шчыкеты на плот, стаўбы, жэрдкі... Я працу вяду дыпламатычным і псіхалагічным метадам. Трэба ведаць, як да каго падыйсці. Я сам вельмі добра ведаю былыя паветы, асабліва Гайнаўшчыну, добра ведаю ўсіх людзей па вёсках, дзесятчаў і ведаю, хто чым можа дапамагчы. Сітуацыя да палітычна-грамадскіх змен у Польшчы была для нас лягчэйшая — дзяржава нам тады крыху дапамагала, а цяпер толькі мы самі робім, што зможам. Але калі цяпер не атрымаем дапамогі — трэцяга будынка, уласцівага музея, нават не пачнем! Калі б беларусы, якія пражываюць у Польшчы, усе — і малы, і старыя — уплацілі цяпер па адной тысячы злотых, мы наш музей скончылі б. А ёсць шмат ахвярных беларусаў, якія даюць сотні тысяч, але многа ёсць з інтэлігенцыі нашай і заможных беларусаў, якія б маглі даць грашовую дапамогу, а нічога яшчэ не ўплацілі! У Сямяцічах ляжыць яшчэ столькі „цаглінак"! А колькі ж каштуе такая „цаглінка" — 100, 200, 500, 1000 злотых! А Юрка Зюзя, лічачы на сённяшнія грошы, заплаціў больш 800 тысяч злотых!

Ужо столькі мы зрабілі — павінна нам выйсці. Не разбяруць яго нам! Калі пабудуем трэці аб'ект — наш музей будзе беларускім навуковым інстытутам і месцам сустрэч, канферэнцый. Будзе тут гатэлік і сталоўка-кавярня. Трэба будзе выкарыстаць памяшканні і на гандлёвыя патрэбы, прадукцыю, экспарт-імпарт. Хочам арганізаваць Фонд беларускай культуры, які статутова мог бы далей фінансаваць разбудову музея. Усе тут ходзяць „для справы" па розных установах, усімі спосабамі стараюцца аформіць усё, усюды дайсці. Цэлыя вёскі даюць, што могуць. Акцыя велізарная. Музей — гэта найважнейшае, што мы робім тут на Беласточчыне...

Цяпер рыхтавалі гэтую выстаўку. Добра, што ёсць у нас „фаховая сіла", Нэля Шчука дапамагала нам грамадска, а будзе, напэўна, захавальнікам фондаў музея; цешымся, што ў Гайнаўцы маглі знайсці такога спецыяліста, абсальвента Кафедры этналогіі і антрапалогіі.

(Працяг на стар. 6)

## Гісторыя і сучаснасць Беларускага музея

### УСТУП

Згодна з дагаворам аб дзяржаўнай граніцы паміж СССР і Польшчай ад 16 жніўня 1945 года, па так званай „лініі Керзана" на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны і прылеглых да яго з поўдня суседніх ваяводстваў асталося беларускае насельніцтва. Лік яго ніколі дакладна не быў акрэслены, хаця спробы такія рабіліся. Паводле першага ў Народнай Польшчы перапісу насельніцтва з 14 лютага 1946 года вядома, што ў Беластоцкім ваяводстве пражывала 116,5 тысяч асоб няпольскай нацыянальнасці, у тым ліку каля 106 тысяч беларусаў. Даныя гэтыя вельмі заніжаны з увагі на пануючы тады ў ваяводстве тэрор падпольных арганізацый, асабліва ўздоўж этнічнай мяжы. Усе чарговыя перапісы не рэгістравалі нацыянальнага складу насельніцтва. Аўтары паасобных апрацовак, у залежнасці ад сваіх крытэрыяў, прыводзяць прыблізныя лікі, пачынаючы ад 120 да 375 тысяч асоб. Найбольш аўтарытэтная для Беласточчыны апрацоўка Польскай Акадэміі Навук „Ваяводства Бялостоцке" (1966) прыгадвае лік 120—140 тысяч, беларускія календары ГП БГКТ — каля 200 тысяч, С. Яновіч у „Газеце Вспулчэснай" (1981) — чвэрць мільёна, а У. Юзвюк у „Ніве" (1966) — 375 тысяч. Насельніцтва этнічнага пагранічча, напалоханае бежанствам 1914 г., затым яўнай дыскрымінацыяй санацыйных ураднікаў, дабравольнай эвакуацыяй пасля II сусветнай вайны ў СССР і рэпрэсіямі, забойствамі, пацыфікацыямі, чыненымі падполлем празаходняй палітычнай арыентацыі, навучылася затойваць сваё нацыянальнае паходжанне. Вядома толькі, што беларусы ад вякоў кампактна займаюць усходнюю частку Беласточчыны.

### БАЗА МУЗЕЙНІЦТВА

Насельніцтва ўсходняй Беласточчыны выпрацавала і здолела захаваць выключна багатую народную культуру. Аддзеленасць вялікімі ляснымі масівамі і балотамі рэк Нарвы і Бобры ад заходніх славян, а таксама ад асноўнай масы беларускага насельніцтва Белавежскай, Блу-

(Працяг на стар. 3)




— 10 —

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Сусветная сацыялістычная сістэма распадаецца на нашых вачах. Гарбачоў давёў да прапасці такія структуры, як міжнародны камуністычны рух, сістэму краін народнай дэмакратыі, камуністычную партыю Савецкага Саюза і ўвесь Савецкі Саюз і нанёс ім моцныя ўдары. Першай паляцела ў прорву сістэма краін народнай дэмакратыі, другія структуры распачліва замахалі рукамі і пакуль што ўтрымліваюцца на беразе прорвы, аднак утрымаюцца надоўга.

Здавалася б, што перад Беларуссю адкрываюцца цудоўныя перспектывы жыцця пры незалежнасці і дэмакратыі. Аднак гэта толькі ўяўнасць. Уся бяда ў тым, што беларусы не маюць гістарычных навыкаў, якія дае толькі жыццё ў атмасферы незалежнасці.

Думаю, што важакі беларускай апазіцыі факт гэты добра сабе ўсведамляюць. Пра тых, хто сёння Беларуссю кіруе, не гавару. Я перакана괜ы, што ніхто з іх усур'ёз не трактуе ідэі незалежнасці Беларусі і таму яны зробяць усё, каб Беларусь поўнай незалежнасці не атрымала.

Застаецца яшчэ народ, фактар найважнейшы. Якраз уся бяда ў народзе. Беларусы не маюць у крыві бацылы незалежнасці і таму будова суверэннай дзяржавы з такімі грамадзянамі, як беларусы, будзе заданнем вельмі цяжкім.

Апазіцыя стараецца рознымі спосабамі ўзбудзіць у беларусаў пачуццё нацыянальнай і дзяржаўнай свядомасці. І таму спасылаецца на формы існавання беларускай дзяржаўнасці не толькі ў перыяд Вялікага княства Літоўскага, але і раней. У такога тыпу матывацыях няма легендарнага. Калі будзем трымацца гістарычных фактаў, дык спробы стварэння сапраўды чыстай формы беларускай дзяржаўнасці выступілі толькі ў перыяд першай сусветнай вайны. Спробы гэтыя выявіліся ў найбольш канкрэтнай форме, у форме абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў пачатку 1918 года. Варта тут сказаць, што амаль усе суседзі Беларусі праявілі абыякавасць або нават варожасць да намагання беларусаў стварыць сваю дзяржаву. Сказанае адносіцца галоўным чынам да рускіх і палякаў, якія зрабілі многа для таго, каб паралізаваць і ліквідаваць парасткі беларускай дзяржаўнасці. Пагарда і варожасць да дзяржаўных аспірацый беларусаў найбольш яскрава праявілася ў часе пагадненняў паміж немцамі і саветамі ў Брэсце і крыху пазней у трактаце, заключаным паміж Савецкай Дзяржавай і Польшчай у Рызе ў 1921 годзе. Як на адны, так і на другія перагаворы не былі дапушчаны аўтэнтычныя прадстаўнікі беларускага народа. Ані Леніну, ані Пілсудскаму нават не снілася ідэя здавальнення дзяржаўных аспірацыяў беларускага народа.

Многія лічаць, што нельга ставіць знак роўнасці паміж адносінамі Леніна і Пілсудскага да дзяржаўных імкненняў беларусаў. Справа ў тым, што падзеленая паміж Польшчай і Расіяй Беларусь атрымала вельмі розныя культурныя і нацыянальныя магчымасці. У БССР у кароткім часе былі створаны шматлікія нацыянальныя ўстановы, якія давалі да вельмі буйнага развіцця беларускай мовы, культуры і нацыянальнай свядомасці. Зразумела, што БССР дваццатых гадоў не сталася беларускай, поўнасцю незалежнай дзяржавай, аднак тое, што сталася ў гэты перыяд у БССР, мела характар вялікай бяскроўнай культурна-нацыянальнай рэвалюцыі. Мабыць, камуністычная партыя спалохалася вынікаў сваіх ініцыятываў і ў пачатку трыццатых гадоў прыступіла да беспрыкладнага ў гісторыі працэсу тэрору, які знішчыў усё тое, што было створана ў перыяд беларусізацыі. Партыя забівала ўласнае дзіця, заяўляючы ўсяму свету, што дзіця здаровае і шчаслівае.

**Алесь Барскі**

# Пачатак дыялогу

**Панядзелак, 15 кастрычніка, быў днём візіта міністра замежных спраў Рэчыпаспалітай Польскай у Мінску. Усе спадзяваліся, што будзе падпісана сумесная дэкларацыя. Сталася інакш. Тэлевізійная інфармацыйная праграма „Вядомосці“ ў панядзелак вечарам паведамляла: „У палітычнай частцы візіта міністр (Скубішэўскі — рэд.) правёў карысныя, хаця нялёгкія размовы з прадстаўнікамі ўлад рэспублікі і парламенцкай апазіцыі. Польскі бок быў падрыхтаваны прыняць канкрэтныя дамовы, перш за ўсё гаспадарчыя. Беларусы аднак засяродзіліся выключна на спрэчных нацыянальных справах. Былі закіды аб дыскрымінацыі беларускай меншасці ў Польшчы. Адзін з членаў польскай дэлегацыі назваў становішча ўлад Беларусі паставай пакрыўджанага, а не партнёра да інтарэсаў. Не дайшло да падпісання апрацаванай экспертамі супольнай урадавай дэкларацыі. Беларускі бок не хацеў прызнаць польска-савецкага пагаднення аб граніцах з 1945 г. Быў таксама адхілены праект запісу аб нязменнасці ўстаноўленых граніц, хаця польскаму баку запэўнівалася, што Беларусь не будзе выступаць з тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі. Раней правадыр апазіцыі ў рэспубліканскім парламенце назваў Беласточчыну этнічна беларускай зямлёй“.**

**Назаўтра газеты змясцілі інфармацыю ПАП, заяўляючы ў загалоўках, што размовы міністра Скубішэўскага ў Мінску пацярпелі фіяска. Абодва беластоцкія „Кур'еры“ ставілі пытанне: ці Беласточчына з'яўляецца этнічнай беларускай зямлёй? У рэдакцыйным каментары „Кур'ер Поранны“ сцвердзіў, што аспрэчванне польскасці Беластока і выказванні аб дыскрымінацыі беларусаў у Польшчы „не памогуць польска-беларускім адносінам, могуць таксама парушыць штораз лепшае сужыццё паміж палякамі і беларусамі ў некалькіх гмінах Беластоцкага ваяводства“.**

**Міністр Кшыштоф Скубішэўскі (інтэрв'ю з ім надрукуем у наступным нумары) выказаўся на гэтую тэму такім чынам: „Друк зрабіў неразумную паніку. Я зусім не лічу гэтыя размовы няўдачнымі“.**

**А вось фрагмент выступлення міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі ў Вярхоўным Савеце БССР на другі дзень пасля візіта міністра Скубішэўскага ў Мінску:**

**„Мы дамовіліся, што па ўсіх спрэчных пытаннях (а яны ёсць, і самае няпростае пытанне гэта сітуацыя з нашымі суродзічамі на Беласточчыне, там адбываюцца ў нас вельмі складаныя працэсы) беларускі бок унясе канкрэтныя мемарандумы, якія польскі бок уважліва вывучыць і афіцыйна нам адкажа. Гэта азначае, што з польскім бокам пачынаем двухбаковае, канкрэтнае супрацоўніцтва. Мы дамовіліся, што ў бліжэйшых 2—3 тыдні група нашых экспертаў, не толькі работнікаў Міністэрства замежных спраў, але і навукоўцаў, выедзе ў Варшаву, дзе пачне працаваць над падрыхтоўкай сумеснай беларуска-польскай заявы па прынцыпах нашага далейшага супрацоўніцтва. Мы дамовіліся, што пасля завяршэння гэтай працы адбудзецца візіт міністра замежных спраў Беларусі ў Варшаву і тады, калі ўсе пазіцыі будуць узгоднены, мы з панам Скубішэўскім падпішам у Варшаве, праз нейкі тэрмін, сумесную беларуска-польскую заяву. Але да гэтага дакумент павінен прайсці парламент. Мы дамовіліся, што наперадзе нас чакае і візіт на больш высокім узроўні, а самае галоўнае — мы пачынаем сур'ёзна працаваць над беларуска-польскім пагадненнем ці дагаворам. Я не ведаю, у які тэрмін павінен з'явіцца гэты дагавор, але гэта вельмі важкі і станоўчы для нас момант як падрыхтоўка дагавора. Я хачу падкрэсліць, што з польскім бокам у нас склаліся добрыя, спрыяльныя адносіны, але, зразумела, мы не можам і не паступімся ніводным з нашых нацыянальных інтарэсаў. Наша міністэрства ўлічвае і будзе ўлічваць у гэтым выпадку не толькі пазіцыю ўрада, але пазіцыю розных плыняў у складзе парламента, у тым ліку і пазіцыю нашай апазіцыі (прабачце за каламбур). Дарэчы, кіраўніцтва апазіцыі ўчора сустракалася з панам Скубішэўскім. Прайшоў, на мой пагляд, канструктыўны разгавор і я думаю, што ў пэўным сэнсе тыя падыходы апазіцыі, якія прагучалі, яны амаль поўнасцю супадаюць у дачыненні да польскага пытання з пазіцыямі Міністэрства замежных спраў. Я хачу падкрэсліць, што наша міністэрства будзе адлюстроўваць агульнанацыянальныя, агульнабеларускія падыходы і пазіцыі“.**

**З гэтага візіта пачалася пабудова новых польска-беларускіх адносін. І хаця пачаткі бываюць нялёгкімі, то аднак няма падстаў для газетных сенсацый.** (л)

# Беларускі сімпозіум

У днях 5—7 кастрычніка ў Белавежы прайшоў беларускі сімпозіум — тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная абмеркаванню шляхоў палітычна-грамадскага развіцця Беларусі як незалежнай дзяржавы і ролі беларускіх сіл і асяродкаў (на Бацькаўшчыне і ў эміграцыі) у агульнанацыянальным адраджэнні. У сімпозіуме прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", беларускай эміграцыі (ЗША, Англія і Францыя) і Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Арганізатарам мерапрыемства было Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў Рэчыпаспалітай Польскай.

Сімпозіум, па сутнасці, быў першым агульнабеларускім форумам, на якім абмяркоўваліся альтэрнатыўныя (не-камуністычныя) дэмакратычныя канцэпцыі будучыні незалежнай Беларускай Дзяржавы і пытанні лёсу беларускага этнасу ў цэлым. Сустрэча, у першую чаргу, сталася абменам выспяваючай беларускай незалежніцкай думкі і дыскусіяй над патэнцыяльнымі шляхамі ейнага ажыццяўлення.

Сімпозіум быў раздзелены на чатыры семінары, прысвечаныя паасобным аспектам палітычна-грамадскага жыцця Бацькаўшчыны. 5 кастрычніка абмяркоўваліся тэзісы лідэра БНФ „Адраджэнне“ Зянона Пазняка адносна шляху Беларусі да незалежнасці. 6 кастрычніка адбыліся два семінары. Першы з іх прысвечаны быў абмеркаванню накірункаў палітыкі незалежнай Беларусі ў дачыненні да сваіх суседзяў. З садакладамі выступілі Яўген Міранoвіч (БДА), Вінцук Вячорка і Хведар Нюнька (БНФ). На другім семінары разглядаліся пытанні рэлігіі, культуры і гістарычнай навукі ў беларускім нацыянальным адраджэнні. З тэзісамі выступілі Юры Хадыка, Міхась Ткачоў і Анатоль Грыцкевіч. Апошні семінар, 7 кастрычніка, закранаў пытанні беларускай эміграцыі і беларускага арэалу Беласточчыны ў кантэксце агульнабеларускага адраджэння. З дакладамі выступілі Янка Запруднік (эміграцыя, ЗША), Сакрат Яновіч і Юры Туронак (БДА).

Значэнне белавежскай канферэнцыі, паводле агульнай ацэнкі ейных удзельнікаў, заключаецца перад усім у запачаткаванні ідэйна плённага дыялогу паміж прадстаўнікамі дэмакратычных плыняў у беларускім руху. У напружаным перыядзе значных палітычных зрухаў і зменаў, калі дзеянне наогул папярэджвае палітычную думку і рэфлексію, сімпозіум у Белавежы стаўся як бы пачаткам распрацоўкі тэарэтычнага асэнсавання будучыні беларускага лёсу. У гэтым сэнсе сімпозіум можна лічыць паспяховым.

**Ян Максімюк**

### МЕНШАСЦІ І ВЫБАРЫ

Паслы з сеймавай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях выказаліся за ўвядзенне ў выбарчае палажэнне такога запісу, які гарантаваў бы нацыянальным меншасцям месцы ў парламенце. Аднак не ўказалі яны на спосаб вырашэння гэтага пытання. Былі прапановы, між іншым, стварыць краёвы спісак нацыянальных меншасцяў, на які можна было б галасаваць ва ўсіх акругах. Раздзел месцаў паміж паасобнымі нацыянальнасцямі адбываўся б прапарцыянальна да ліку сабраных галасоў. Не вядома таксама, колькі месцаў у парламенце трэба адвесці нацыянальным меншасцям. Дэталёвую прапанову апрацоўвае адмыслова створаная пасламі камісія.

**(ПАП)**

# Юбілейнае маляванне

Верасень сёлета ў Белавежскай пушчы быў хмурны, дажджлівы. Мастакі, якія прыехалі ў Белавежу на XXV ужо, юбілейны мастацкі пленэр, не мелі магчымасці спакойна пахадзіць па лесе, прыглядзецца прыродзе. Натхнення шукалі, выглядаючы праз вокны гасцініцы „Іва“. А да таго ж некалькіх мастакоў напаткалі зусім немастацкія выпадкі. Стэфана Рыбі забрала ў бальніцу хуткая дапамога (нейкае атручэнне), Роберт Карат апарыў кіпецэнем руку, а камісар пленэру Мечыслаў Мазур з Ломжы быў вымушаны вырваць зуб. Але нягледзячы на ўсе гэтыя перашкоды і няўдачы, дваццаць мастакоў, пасля трох тыдняў малявання, пакідала Белавежу неахвотна, з жалем. Наогул і самі белавежцы ад'езд майстроў палітры прынялі з нейкім сумам у вачах. Бо трэба адзначыць, што арганізаваныя ў мястэчку з 1965 г. пленэры ўраслі ў псіхіку і сэрцы тутэйшых жыхароў. Сталі проста неабходнымі. Доказам няхай будзе мінулы год, калі пасля заканчэння пленэру не была зроблена выстаўка намаляваных палоцен і людзі былі проста абураны гэтым фактам, злаваліся.

На шчасце, у бягучым годзе выстаўка была наладжана. Паказана на ёй звыш 50 палоцен, хаця намаляваных было дзесьці пад сотню. Як заўсёды, выстаўку гасцяваў мясцовы прыродазнаўчы музей.

Найбольш зацікаўлення ў наведвальнікаў выклікалі працы Таццяны Лежанскай з Гродна. Мастачка прымяніла даволі арыгінальную тэхніку малявання. Карціны малявала на фанеры маслянымі фарбамі, змешанымі з падаграваным воскам. Калі дакрануцца да такой карціны рукой, атрымоўваецца ўражанне, быццам кранаем шкло ці глазуру. Другі мастак з Гродна, Уладзімір Голуб, выканаў свае працы традыцыйнай тэхнікай. Паказаў некалькі карцін, дыхаючых нейкім казачным настроем, мікрапушчанскай таямніцай. І калі ўжо гаварыць аб замежных мастаках, дык нельга не ўспомніць і пра Галену Задрэйка, ураджэнку Далідовічаў, што на Беларусі, зараз пражываючую ў Грэцыі. Гэтая мастачка трымаецца натуралістычнай плыні. Яе палотны з фруктамі дрэў і кустоў на фоне лясной прасекі ці з кучай розных грыбоў проста гіпнатызавалі наведвальнікаў натуральнасцю. Таксама і карціна з постацю стройнай маладой жанчыны з каробкай, поўнай лясных птушак.

Рэалістычны жывапіс прадстаўляла на выстаўцы таксама Марыя Анта з Варшавы. На жаль, яе ўсход сонца ў Белавежы крыху перасалоджаны, затое захад ужо дыхае „адпаведнымі“ колерамі. Такі ж чароўны захад убачыла з вокан гасцініцы „Іва“ Д. Вабэрская.

Найвялікшымі, аднак, каларыстамі на сёлетнім пленэры, безумоўна, былі Анджэй Мажэйка з Варшавы і Стэфан Рыбі з Беластока. Палотны іх поўныя нейкай метафары і алегорыі, уражвалі зрок гледача перш-наперш геніяльным падборам і „мантажом“ розных колераў.

Нельга не ўспомніць і пра Станіслава Мазуся з Тыхаў. Людзям найбольш падабаліся палотны "Хлеб" (разрэзаны бохан хлеба, які ляжыць на нейкім нумары „Кур'ера падляшскага“, разасланым на пасцелі) і „Таня ў белі“, якое паказвае гродзенскую мастачку. Асаблівай працай, у нейкім сэнсе падсумоўваючай ці дакументуючай пленэр, было палатно з выявай задуманага камісара пленэру Мазура на фоне пушчы, а навокал яго партрэты ўсіх удзельнікаў сёлетняга мастацкага мерапрыемства.

А М. Мазур у задуменні не без прычыны. Усе баяцца, што з-за недахопу сродкаў наступныя пленэры ў Белавежы могуць не адбыцца. Пад такой пагрозай знаходзіўся і юбілейны пленэр. Усё-такі арганізатару — беластоцкаму аддзяленню Саюза польскіх мастакоў, удалося знайсці спонсараў. Ці знойдуцца яны і ў наступным годзе?

**Пятро Байко**




## „ТРАЧУК АБАРАНЯЕ ПАЗНЯКА“

На добры лад я не павінен адказваць на допіс С. Яновіча. З інвектывамі звычайна не палемізуюць. А такія вылазкі мелі месца ў адносінах да маёй асобы з боку С. Яновіча (глядзі „Ніва“, нумар 37(1792), ад 16 верасня г.г., с. 5). Разумею іх як слабасць Сакрата (хто ж любіць прызнавацца да сваіх памылак?). Вядома ж, калі ў цябе не хапае рэчавых аргументаў у палеміцы ці дыскусіі з другой асобай і гэтакім чынам сапернік перамагае, найлягчэй на яго накінуцца з кулакамі. Нешта падобнае і мела месца ва ўспомненым допісе С. Яновіча. Яновіч абазваў мяне „крыкуном“, які быццам бы „набіваецца ў абаронцы“ прафесара. Хай будуць яны пасведчаннем культуры дыскусіі С. Яновіча. Вядома, разважаць далей наконт слабасцяў вядомага пісьменніка, было б непрыстойна з боку маёй асобы. Не мне павучаць Яновіча ці вучыць яго „савуар-вівру“ (savoir-vivre).

Напачатак я хацеў бы высветліць некаторыя факты, звязаныя з допісам С. Яновіча, які можа ўнушаць няправільныя перакананні, а ў сувязі з гэтым і ўяўнасць нібыта тэндэнцыйнай маёй з ім палемікі. Асабіста я незнаёмы з праф. Тэлесфарам Пазняком, хоць ведаю ягоныя працы. З Сакратам Яновічам, наколькі добра памятаю, знаёмы мы ад 1981 а мо і 1980 г., калі пазнаёміліся ўпершыню ў рэдакцыі „Нівы“ ў пакоі Г. Валкавыцкага. Праўдай з'яўляецца не тое, што быццам бы я з'яўляюся „адвакатам“ прафесара Тэлесфара Пазняка (хай нават і так будзе), а Сакрата Яновіча (параўнай „Кантрасты“, нумар 10 (158), ад кастрычніка 1981 г.). Мяркуючы па гэтаму, С. Яновіч хацеў бы, каб я і надалей быў ягоным адвакатам. Аднак, справу, якую прадставіў ён у 29 (1784) нумары „Нівы“, бараніць не буду. Палемізуючы з ім жа ў 35 (1790) нумары „Нівы“, я выступіў хутчэй за ўсё ў ролі бесстаронняга суддзі, чымсьці чыёга-небудзь адваката.

Так сталася, што фактаграфічныя хібы С. Яновіча ў ягонай „Халтуры на беларускія тэмы“ паказаліся мне нашмат важнейшымі, што я і падкрэсліў у падзагалоўку палемікі („Пра кардынальнае пытанне“), чымсьці ўсе іншыя, разам узятыя, праф. Тэлесфара Пазняка.

Не прычына гэта аднак дзеля скандальнай сваркі ці крыклівасці! Што датычыць апошняй, дык карыстаўся я ў палеміцы фразеалагізмамі, жыўцом узятымі і адзначанымі двукоссем з „Халтуры...“ С. Яновіча. Няўжо Сакрату Яновічу недаспадобы ягоная ўласная лексіка?.. У гэтым якраз і бачу беспадстаўную спробу С. Яновіча рабіць з мяне... „крыкуна“. Хто мяне ведае, дык кожнаму здаваўся я ціхім ды спакойным чалавекам! Як жа С. Яновіч пачуў з „нямой“ „Нівы“ мой „крык“, вядома толькі аднаму С. Яновічу.

Але даволі іроніі...

Наканец крыху шырэйшай рэфлексіі. Цікавіць мяне адно толькі: як жа гэта Сакрат Яновіч думае „будаваць“ плюралізм „Нівы“, дапускаючы ў друк выключна „слушныя“ фразы?.. Не цяжка здагадацца, што гэта на ягоным „сумленні“ недапушчаная ў друк мая першая адкрытая палеміка з ім (памерам дзесяці старонак машынопісу) з 1988 г. Замест гэтага чытач „Нівы“ атрымаў „вырваныя“ з кантэксту пашаткаваныя „дозы“ маёй палемікі на самай справе з адпаведным каментарыем. Што гэта? Дазіраваная дэмакратыя?

Сваёй апошняй палемікай з С. Яновічам (ад 2 верасня г.г.) я хацеў яшчэ даказаць адно: ніхто не мае манаполіі на праўду. Не мае яе таксама і Сакрат Яновіч (што я даказаў не інвектывамі, а фактамі). Дыскусія Сакрата Яновіча на самай справе са мною была „пазбаўлена сэнсу“ не таму, што сапраўды была „пазбаўлена сэнсу“, а таму, што не хапіла ў яго аргументаў (адсюль ягоная злосць і інвектывы).

(Працяг на стар. 5)

# Гісторыя і сучаснасць Беларускага музея

(Працяг са стар. 1)

даўскай (Кнышынскай) і Аўгустоўскай пушчамі з усходу, спрыяла замацаванню своеасаблівых рысаў матэрыяльнай культуры і побыту. Праяўляецца гэта да сёння ў прыладах працы, будаўніцтве, ткацтве, багацці моўных дыялектаў. Усё гэта ствааралася на працягу многіх стагоддзяў пры абмежаваным ўздзеянні суседніх культур, а захавалася дзякуючы існаванню натуральнай сістэмы ў сельскай гаспадарцы. Гэты напрамак гаспадарання патрабаваў мноства розных прыладаў працы і побыту, якіх купіць было нельга з увагі на абмежаваныя рынкавыя адносіны. Трэба было ўсё выконваць лепш ці горш, але саматужна. Многія сяляне дасягнулі ў гэтых рамяствах высокае мастацтва і сведчылі паслугі нават суседнім польскім вёскам. Да сёння гэта заўважальна ў дойлідстве, ткацтве, прыладах працы. Трывалыя знішчэнні народнай культуры запачаткавалі пасляваенныя грамадскія і гаспадарчыя змены ў ПНР. Моцныя ўздзеянні цывілізацыйных плыняў і масавая міграцыя насельніцтва ў гарады спрыялі занападу традыцыяналізму. Уласнаручна выкананыя прадметы апынуліся на гарышчах, дзе перахоўваліся на „цяжкія гады“. І гэта нашае шчасце. Усходняя Беласточчына бадай яшчэ найлепш з усіх беларускіх зямель здолела захаваць свае старадаўнасці.

### ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Змены ў народнай культуры трапна ацэньвала ад пачатку свайго існавання (1956 г.) Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое ўвяло ў свой статут абавязак ахоўвання помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Дзеячы старэйшага пакалення: Васіль Дзун, Піліп Кізевіч, Яраслаў Кастыцэвіч, Мікалай Лебядзінскі, Якуб Базылюк і іншыя на амаль усіх пасяджэннях ГП БГКТ, яго аддзелаў і гурткоў падкрэслівалі неабходнасць ахоўвання экспанатаў і стварэння этнаграфічнага музея. Вырашэнне гэтага пытання аказалася даволі складаным заданнем. Спачатку БГКТ запрапанавала ўладам арганізаваць у Беластоцкім музеі беларускі аддзел, але прапанова не дачакалася рэалізацыі з увагі на вельмі абмежаваную музейную плошчу. Не прынесла вырашэння праблемы спроба стварэння грамадскага камітэта пабудовы Дома культуры імя К. Каліноўскага ў Беластоку. Сабраныя невялікія фінансавыя сродкі былі перададзены на заканчэнне дома культуры яго імя ў Гарадку.

У 1963 годзе пры ГП БГКТ быў створаны чарговы камітэт пабудовы рэгіянальнага музея ў Гайнаўцы. На яго прапанову гарадскія ўлады выдзялілі нават пляц у цэнтры горада. Аднак, і на гэтыя раз сабрана ад насель-

(Працяг на стар. 6)



*Жанчыны з Гуранаў пры апрацоўцы ільну (1967 г.).*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

(18)

Заслужаны камуніст з Белавежы слушна папракнуў мяне ў тым, што я паверыў Гэбельсам савецкай прапаганды наконт сапраўдных вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Перабрахаў я чытачам, што той народазабойчы балаган над Прыпяццю раўназначны быў выбухам усяго дзесяці атамных бомбаў... Тым часам, кожны камсамолец ужо ведае, што гэты афіцыйны параметр трэба перамножыць цераз трыццаць пяць. І з атрыманых трыста пяцідзесяці — тры чвэрці выпала на долю цямнотна спакойнай Беларусі. Анёл смерці распасцёр свае крылы над Палессем; сотні тысяч дзяцей паўмірае ў бліжэйшыя гады, найчасцей на рака крыві (арганізмы старых аказаліся болей устойлівымі на радыяцыю). Які суд напіша свой вырак на бальшавіцкіх злачынцаў?!

Іншая памылка, дапушчаная мною ў адным з урыўкаў „Жыве Беларусь!“, дык гэта асцярожнае, усё-такі, спадзяванне на помач Беларускай ССР Беластоцкаму Краю. Паважаны чытач з Мінска пракаментаваў маю надзею так: калі вам, у Беластоку, будуць вязаць пятлю, то можаце не сумнявацца ў тым, што намыляць гэту смяротную вяроўку паслужлівыя рукі, якія нецярпліва працягнуцца на вашу пагібель з Савецкага Саюза... Бо: беларусы — перашкода для імперыі.

Чаму паддаемся ілюзіям? Таму, што слабыя. Цешымся чужацкімі абяцанкамі, бо не верым у сябе. У нас прадажныя душы бедных людзей (багатага абычым не падкупіш).

Што абазначае беластоцкім беларусам ідэя незалежнасці Беларусі? Напэўна пачатак канца трактоўкі Польшчы як сваёй айчыны. Каб так не здарылася, трэба вялікай мудрасці з боку палітычнай Варшавы; гэтага не было ў яе, няма і не будзе. Яна ўпарта зіркаціць на Стоўбцы. А Мінск, калі зробіцца Менскам, загледзіцца на Беласток. Паядынак вырашаць не арміі, а стабільнейшы дабрабыт у аднае з гэтых дзяржаваў. Калі лепей стане жыць за Свіслаччу, беларуская нацыянальная меншасць не апалячэе.

Час адпусціў нам дзеля самавыратавання дадатковую квоту аднаго пакалення, дваццаць гадоў. І ані месяца больш, калі браць пад увагу, што дакладна сёння дзеці праваслаўных „бацюшкаў“ гадуюцца на палякаў, дочкі і сыны настаўнікаў беларускай мовы не даюць рады і двух словаў зляпіць на роднамоўі, а добрая палова ўнукаў — прыкладам — у гаспадарскіх Дубічах-Царкоўных звярам глядзіць на цябе, калі маеш смеласць азвацца да іх не па-польску.

Пасля 2010 году мы — або застанемся як нацыя, або не. Кажу так яшчэ вось чаму: эканоміка рынку аднаўляе даход, таксама, і ў сферы культуры. А нашу, беларускую, настолькі зацюкалі ды заанучылі, што ў яе мала кліентаў, яна банкрутная. Пакінь хаця б „Ніву“ на свае грошы, то і аднаго месяца не пратрымалася б, хоць існуе трыццаць чацверты год, але за скарбовыя...

Банальная праўда: нацыя, якая не стварыла ўласнай дзяржавы, прападае (пра меншасці і не гаворыцца). Драматызм беларускай сітуацыі ў тым, што наўкола нас усюды спелыя нацыянальна народы, а мы толькі спрабоўваем ачухацца ад камуністычнага мардабою, пачынаць раўняцца сваёй свядомасцю з імі. Яны змагаюцца за тое, каб хутчэй пайсці наперад на гасцінцы гісторыі, а мы ўсё сядзім у кустах, баючыся выглянуць на шлях тлумны. Пакрываем на палянах, але ж не ў пушчах будучы свет.

*(Працяг будзе)*

Калі глядзім сёння на вельмі цяжкі шлях пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, дык поўнасцю ўсведамляем, што быў бы ён у многа разоў цяжэйшы, калі б не высакародная дапамога з боку беларускага замежжа.

Несумненнымі дабрачынцамі былі беларускія эмігранты. Людзі, якіх з такой заўзятасцю на працягу дзесяткаў гадоў кляймілі афіцыйныя беларускія служакі, былі першымі, якія зразумелі вялікае гістарычнае і нацыянальнае значэнне Беларускага музея і моцна падтрымалі ідэю яго пабудовы. Падтрымалі не толькі духоўна, не толькі словам, але і фінансава. Галоўным чынам дапамагалі нам беларусы з Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Англіі, Бельгіі і з многіх іншых краін. Шкада, што немагчыма тут назваць прозвішчы ўсіх ахвяравальнікаў, але нельга абыйсці маўчаннем тых, хто ўзяў на свае плечы ролю інспіратара, збіральніка грошай на пабудову. І тут перш за ўсё прагну назваць Веру Бартуль (ЗША), якая разгарнула шырокую і надзвычай эфектыўную акцыю па зборцы грошай. Прывяду толькі адзін прыклад. У мінулым годзе спадарыня Вера Бартуль прыехала ў Польшчу. Прысутнічала, між іншым, на свяце беларускай песні ў Беластоку. Сказала, што ўсё, што пабачыла ва ўсходняй Беласточчыне, ёй спадабалася і што асаблівае ўражанне зрабіў на яе размах музейнай будоўлі. Дабавіла, што ў далейшым будзе збіраць грошы на музей. У тым, што гаварыла, не было ніякай дэкларатыўнасці, не было вялікіх слоў і гучных абяцанак. І які практычны эфект сціплых стрыманых выказванняў Веры Бартуль? А такі, што зноў сабрала і прыслала нам сем тысяч долараў! І гэта тады, калі пабудова апынулася ў тупіку з прычыны недахопу фінансавых сродкаў. Вялікі дзякуй Вам, Вера Бартуль, за ваша вялікае беларускае сэрца! Словы ўдзячнасці належаца таксама Сяргею Карніловічу (ЗША), які ўжо многа гадоў нястомна збірае грошы на пабудову. Гэтая ж удзячнасць належыцца і Пятру Кажуру (ЗША), які ўзяў на свае плечы цяжар дапамогі музею. Можа хтосьці падумаць, што слова „цяжар“ тут неадпаведнае. Аднак замяняць яго больш далікатным не трэба. Справа ў тым, што амерыканскія беларусы людзі ахвярныя, але і асцярожныя. І калі б не вялікая рашучасць і дэтэрмінацыя такіх людзей, як В. Бартуль, С. Карніловіч і П. Кажура, дык ахвяры на музей былі б намнога меншыя.

Пры нагодзе яшчэ раз хачу ўспомніць добрым словам пакойнага Міколу Заморскага (ЗША), які быў у Гайнаўцы. Захапіўся ідэяй музея і ўнёс у яго фонд не малыя грошы.




**Дарагія! Шчыра дзякую вам за „Ніву“ № 37 і за фота. Інтэрв'ю чытала колькі разоў — тое ўсё роднае і блізкае так далёка, далёка я ад усяго свайго. Толькі ў інтэрв'ю памылка была з майго боку: хор, у якім я спявала, не меў ніякага назову. Хор „Каліна“ — гэта спевакі маладыя, яны радзіліся ў Аўстраліі, спяваюць і іграюць на гітарах. Калі ласка, зрабіце папраўку ў „Ніве“ — што я ў хоры „Каліна“ не спявала. Прабачце мне за маю недакладнасць.**

**Да Аўстраліі даехала добра. Ляцела 23 гадзіны 35 мінут! Была ў дарозе тры дні.**

**З глыбокай пашанай**

**ВЕРА ШАЙПАК**

**Шаноўная рэдакцыя! Пішу вам ад імя раённай рады БНФ „Адраджэнне“ Савецкага раёна г. Мінска. Мы жадаем наладзіць сувязі з нашымі суайчыннікамі за мяжой Беларусі. Дапамажыце нам у гэтым, калі ласка! Узрост людзей, якія ўваходзяць у нашу раду, ад 25 да 35 гадоў.**

**Асабіста пра сябе магу дадаць, што мне 31 год, маю 2-х сыноў (5 і 9 г.), працую інжынерам у праектным інстытуце. Сама я родам з Гродзеншчыны, з в. Орля (у вас на Беласточчыне таксама ёсць Орля, а мая Орля за польскім часам была — Орля над Нёманам).**

**Да пабачэння, чакаем з нецярпеннем лістаў.**

**АЛЕНА АНДРОСАВА**
**220131, БССР,**
**Мінск, а/ скр. 130**

# Памагаю людзям жыць

**(Размова з ЛЮДМІЛАЙ ГВАЙ з Белавежы, сястрой дапамогі ПЦК)**

— *Чаму ты выбрала такую прафесію?*

— Я з дзяцінства люблю дапамагаць людзям, асабліва старэйшым, бездапаможным. Пры такой схільнасці прафесія сястры дапамогі была мне прызначана як быццам сама па сабе.

— *Калі і як пачаўся твой працоўны шлях?*

— Дапамагаю састарэлым ад 1974 г. Пасля трохмесячнага курсу, што арганізаваўся ў Гайнаўцы, адбыла я практыку ў мясцовай бальніцы і даўжэйшы час працавала ў горадзе, даязджаючы з Белавежы. Ужо пяць гадоў працую на месцы. Сама я ўраджэнка сяла Мора.

— *Колькі ў цябе падапечных?*

— Зараз трох, раней чатырох. Аднаму майму падапечнаму 94 гады, двум па 78 гадоў.

— *У чым заключаецца твая праца?*

— Ох, трэба быць усім — лекарам, санітаркай, прыбіральшчыцай, кухаркай, нават псіхолагам ці дарадчыкам. Цяжка хворым раблю пакупкі, падрыхтоўваю снеданні, выконваю ім агульную касметыку. Мушу таксама дагледзець, каб падапечны правільна харчаваўся, прымаў лякарствы, прыпісаныя лекарам. Найважнейшае ўсё-такі — быць прыяцелям старога чалавека.

— *Колькі часу прысвячаеш у дзень на дапамогу?*

— У асноўным працую ад 7 да 15 гадзіны, але, калі трэба, заглядаю да падапечных таксама ў іншыя поры дня ці нават у свабодныя суботы, нядзелі, святы. Інакш сумленне не дазваляе.

— *Многа падапечных мела ты за свае 16 гадоў працы?*



*Людміла Гвай з чатырохмесячным асвоеным дзікам.*

— Даволі многа, цяжка нават іх так адразу палічыць. Думаю, што не менш чым 50 чалавек.

— *Задаволена ты з сваёй працы?*

— О, так! Адчуваю, што я патрэбная людзям. Я быццам іхняя падпора, без якой цяжка, а нярaз і немагчыма жыць.

— *Ці твае суседзі, знаёмыя не зайздросцяць табе часам? Ты ж маеш шмат прывілеяў, і ў краме купіш без чаргі, і ў амбулаторыі не чакаеш, і лякарствы дармовыя.*

— Мо некаторыя крыху і зайздросцяць, але самі кажуць, што такой працы яны не маглі б выконваць. Мае найбліжэйшыя таксама здзіўляюцца, адкуль у мяне столькі самаахвярнасці, адданасці.

— *І што ты ім адказваеш?*

— Што ж, смяюся! Потым гавару: цікава, ці на старасць я дачакаюся ад вас хаця б паловы такой апекі, якую цяпер сама даю?!

— *Дзякую за размову. Жадаю табе далейшых поспехаў у гэтай адказнай і патрэбнай працы.*

Размаўляў і фатаграфаваў
**Пятро Байко**

# Дары беларускіх сэрцаў

Прагну вылучыць асобу Кастуся Калошы, які ў часе майго знаходжання ў Амерыцы ўнёс у фонд музея тысячу долараў. А колькі ж іншых прыгожых і ахвярных беларусаў у заходнім свеце?! Дагэтуль беларуская эміграцыя перадала на музей каля 25.000 долараў.

Прыкрае тое, што збор грошай на музей праводзіцца пад акампанемент плётак, недарэчлівых выдумак, а то і правакацыі. На жаль, крыніцы гэтага ўсяго плывуць з Беласточчыны. Ёсць у нас людзі, якія пішуць на Захад правакацыйныя лісты, у якіх падаюць ілжывыя інфармацыі аб Беларускім музеі і людзях з ім звязаных. Прывяду прыклады. Беларускі дзеяч з Нямеччыны, які нядаўна памёр, быў „паінфармаваны" аб тым, што я разам з кампаньёнамі забраў з музея старынны невад і прапіў яго. Нядаўна адзін з выдатных беларусаў з ЗША сказаў мне, што пазваніў яму беларус з Кліўленда і правёў з ім наступную размову:

— Ты даваў грошы на Беларускі музей у Гайнаўцы?

— Даваў.

— Дык ведай, што яны прапалі.

— А чаму прапалі?

— А таму, што Беларускае таварыства не аформіла юрыдычнай уласнасці на зямлю, на якой стаіць музей, і згодна з правам будынак музея будзе належаць палякам, а не беларусам.

— Ну, што ж зробіш, прапалі — дык прапалі. Аднак ты не перараймайся гэтым, бо ты ж грошай на музей не даваў.

Справа ў тым, што „інфарматарам" беларуса з Нямеччыны і з Кліўленда быў той самы чалавек. Жыве ён у Беластоку і быў нават членам камітэта пабудовы музея, але ў яго фонд нічога не ўнёс. Мы, на шчасце, афармілі ў судзе ў Бельску-Падляшскім вечную (на 99 гадоў) арэнду на зямлю, якая знаходзіцца пад і вакол музея. Цяжка сабе ўявіць, каб нехта яе забраў ад нас пасля таго часу.

І яшчэ адна адмоўная з'ява. Ад многіх беларусаў з Канады і ЗША атрымаў я весткі аб тым, што некаторыя беларусы з Беласточчыны ў час знаходжання ў Амерыцы ў 1988 г. збіралі грошы на музей. На жаль, да сённяшняга не ведаем, якія сумы сабралі гэтыя беластачане, бо да сёння сабраныя долары не ўплылі на музейны рахунак.

А цяпер аб дапамозе з боку савецкіх беларусаў. На працягу многіх гадоў не ангажаваліся яны ў справу пабудовы Беларускага музея. Аднак некаторыя прыватныя асобы, а нават групы перасылалі „нелегальна" грошы ў фонд музея. Рабіў гэта не раз навуковы супрацоўнік Акадэміі Навук БССР Уладзімір Казбярук, а таксама навуковыя супрацоўнікі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Нарэшце, у справу ўключылася таварыства „Радзіма" і Фонд беларускай культуры. Дзякуючы намесніку старшыні праўлення „Радзімы" М. Васілёнку быў адкрыты банкавы рахунак для пабудовы музея. На працягу параўнаўча кароткага часу на рахунку сабралася каля сямідзесяці тысяч рублёў. Гэта не мала. Дзякуючы „Радзіме", фондам беларускай культуры ў Мінску і ў Гародні, у якой вялікімі прыхільнікамі нашай справы з'яўляюцца прарэктар Гродзенскага універсітэта Сяргей Габрусевіч і супрацоўніца фонда Надзея Трухановіч, удалося нам купіць за сабраныя грошы будаўнічыя матэрыялы, якія ў Польшчы каштуюць астранамічныя сумы. І так дагэтуль дзякуючы нястомнай энергіі Кастуся Майсені ўдалося прывезці чатыры грузавікі матэрыялаў і прыладаў, неабходных для пабудовы і функцыянавання Беларускага музея. Дагэтуль былі прывезены ў Гайнаўку вялікія колькасці глазураванай пліткі, радыятараў для абагравання, электракабеляў, аконнага шкла, пакосту, фарбаў, а таксама тэлевізар, радыё, радыёла, электрапліта, электрапечкі, халадзільнік, прылады да фоталабараторыі, дрэваапрацоўчы і металаапрацоўчы станок, пішучыя машынкі, 500 м² выкладзіны на падлогу, 50 камплектаў пасцелі і многія іншыя. Савецкі бок даў бясплатны транспарт, які прывёз гэты каштоўны груз у Гайнаўку. Былі не малыя клопаты на дзяржаўнай мяжы як з савецкага, так і з польскага боку, аднак нястомнасць Кастуся Майсені перамагла ўсё.

Я тут не назваў многіх прозвішчаў і устаноў, якія ўдзельнічаюць у высакароднай справе дапамогі Беларускаму музею. Зразумела, што ўсім ім мы глыбока ўдзячны.

Беларускі музей мы будуем дзеля інтарэсаў усіх беларусаў незалежна ад таго, дзе яны жывуць, хочам, каб быў ён уласнасцю ўсіх беларусаў і каб усім нам ствараў славу ў шырокім свеце. Да канца пабудовы музея яшчэ далёка і таму вельмі прашу надалей дапамагаць яму грашыма. Толькі новыя дары беларускіх сэрцаў узнімуць муры Беларускага музея і напоўняць яго сцены жывой беларускай субстанцыяй.

**Аляксандр Баршчэўскі**




**Частка IV**

### СКАЗАННЕ ПРА ТАКАРЫ

Пра Такары ўпамінаецца ўжо ў палавіне XV ст., калі князь Казімір надзяліў „сельцо на имя Токари" для Стэцькі Аляхновіча з берасцейскай зямлі. У наступным стагоддзі Такарамі ўладарыў род Такарэўскіх, які чамусьці з часам збяднеў і ў 1775 г. лічыцца ўжо толькі дробнай шляхтай.

Мабыць, нямногія жыхары Такароў ведаюць, што менавіта ў іх сяле нарадзіўся выдатны беларускі гісторык і палітычны дзеяч Усевалад Ігнатоўскі (1881-1931). Жыццё У. Ігнатоўскага выпала на складаныя гады беларускай гісторыі. Дзяцінства сваё правёў у падляшскіх Такарах у настаўніцкай бацькоўскай сям'і. Затым былі гады вучобы і фармавання светапогляду, І сусветная вайна і выкладанне ў 1914-20 гадах у Мінскім настаўніцкім інстытуце. Пасля сфармавання БССР Ігнатоўскі ўключаецца ў палітычнае і навуковае жыццё рэспублікі. У 1920-1921 гадах з'яўляецца міністрам земляробства Савецкай Беларусі. Потым узначальвае дэпартамент асветы, выкладае ў БДУ, а з 1929 года становіцца прэзідэнтам АН БССР. З таго ж года сталінскія ўлады ўзмацняюць атакі на У. Ігнатоўскага, закідаючы яму сувязі з нейкай „контррэвалюцыйнай арганізацыяй". У. Ігнатоўскі ў гэты момант пачынае наглядна заўважаць усю зманлівасць ідэі БССР... Пасля псіхічных і маральных здзекаў, даведзены да краю нервовай вытрымкі, вядомы вучоны ў 1931 г. канчае жыццё самагубствам.

Стаіць і сёння ў Такарах школа, у якой вучыў бацька У. Ігнатоўскага. Шкада, што ў гэтай (цяпер амаль наскрозь польскай) школе нішто не згадвае пра сувязі прафесара з Такарамі. А магла б нават школа называцца ягоным імем.

Да самай дзяржаўнай мяжы, што праходзіць у 150 метрах ад школы, цягнецца вясковая брукаванка. Перад вайною Такары былі вялікім сялом, доўжыліся некалькі кіламетраў. Недарэчны новы гранічны падзел перапалавіў вёску ў 1946 годзе. На баку Польшчы апынулася заходняя частка сяла з царквою на „Катэрцы" ды касцёлам (узведзены быў перад вайною ў „падгалянскім" стылі). На баку БССР асталася ўсходняя частка з прыхадскою царквою з XVI ст. Падзел быў вялікай драмай для жыхароў вёскі. Большасць яе беларускага праваслаўнага насельніцтва пераехала ў БССР. На 80 сем'яў засталося тут толькі 15 беларускіх сем'яў. Але неўзабаве Такары нанава засялілі рэпатрыянты з БССР. Вясковая вуліца канчаецца калючым дротам.

Вякамі сярод жыхароў Такароў і ваколіц пераносілася прадказанне аб урочышчы „Катэрка". Прадказанне гэта з'явілася некаму ў вешчым сне: „І праславіцца месца гэтае вялікімі цудамі. Але спачатку ніхто не будзе яго ведаць. І будуць яго абмінаць, каб не праваліцца ў балота. Ажно прыдзе дзень і ласка вялікая зойдзе тут і выявіцца моц Усявышняга. Людзі даведаюцца і пачнуць ісці на „Катэрку" зблізку і здалёку, і многія тут знойдуць выратаванне ад цярпенняў... І ўзвядуць царкву і аб храме будуць ведаць многія. Але раптам слава яго прыціхне, людзі прызабудуць аб месцы святым, а храм пачне нішчэць. Станецца так, што нешматлікія ўжо будуць помніць аб яго доўгай славе. Міне час пэўны і прыбудзе ў тыя старонкі адзін чалавек — манах. Ён адшукае ў лесе закінуты храм, падыме яго з заняпаду ды пачне тут служыць. Людзі ўспомняць былое. Месца зноў праславіцца і слова гэта трываць будзе па ўсе часы".

Людзі вераць, што прадказанне аб „Катэрцы" ўжо збылося. А могуць сведчыць аб тым наступныя факты.

На Тройцу ў 1852 годзе жыхарка Такароў Фрося Івашчук выбралася па шчавух на ўрочышча „Катэрка". І тут, у час збірання паказалася прад ёю незнаёмая жанчына, якая і сказала Ефрасінні, што Бог даў святы на тое, каб маліцца ў царкве, а не працаваць. Адыходзячы сказала яшчэ, што народ за сваю нявернасць будзе пакараны (збылося тое ў 1853 г., калі праз ваколіцу прайшла эпідэмія). Ефрасіння ў той момант не магла прамовіць ні слова, але верыла, што прад ёю стаіць сама Божая Маці.

Неўзабаве мясцовы святар паставіў на месцы яўлення крыж.

(Працяг на стар. 7)




(Працяг са стар. 3)

Ад сябе раю Сакрату Яновічу быць больш скромным... А то і каса часам можа наскочыць на камень...

**Юры Трачук**

P.S. З „Гэтак званай палемікай" Мікалая Давідзюка („Ніва" № 40 (1795), ад 7 кастрычніка г.г.) палемізаваць не буду. Давідзюк не толькі не арыентуецца ў сутнасці спрэчкі паміж мною і Сакратам Яновічам, але яшчэ ў дадатак не ведае беларускай гісторыі ды няўважліва прачытаў як яго (С. Яновіча), так і мой тэкст („Ніва" № 35, ад 2 верасня г.г.). Ды і не пра погляды ішла ў ім мова, а пра канкрэтныя факты, якіх М. Давідзюк не хоча заўважаць. Прычым тыповая мастацкая ягоная „Г.зв. палеміка" ажно роіцца ад абразлівых эпітэтаў! (для прыкладу, закідаючы мне нібыта... „махлярства"!). Гэткія эпітэты падыходзяць усяго толькі пад адпаведныя параграфы карнага кодэксу! У маёй вострай палеміцы з С. Яновічам са свечкай шукаць нейкага эпітэту (за выключэннем сутнасці справы).

Сапраўды, пачуў я ў іх пах „мінулай эпохі"!..

Здзіўляе мяне, аднак, не „Г.зв. палеміка" М. Давідзюка, дарэчы, добрага мастака, але тое, што сапраўды няма ў нас яшчэ людзей, з якімі на гэтых жа старонках „Нівы" можна было б па-сапраўднаму паспрачацца востра, але і на адпаведным культурным і інтэлектуальным узроўні!

**Ю. Т.**

## Добра, што не страцілі мы часу

(Працяг са стар. 1)

Выстаўку тэхнічна арганізавалі сябры з Мінска, рэшта залежала ад нашай вынаходлівасці. І сторажаў трэба было знайсці, і забяспечыць усё ад пажару... Грошай нам яшчэ больш, грошай трэба!

**АЛЯКСЕЙ ХАРКЕВІЧ: „Будуем!“**

— Будуем. Збіраем грошы, як можам. Я сам нічога асаблівага не зрабіў, і ніхто не зрабіў бы. Я з лапатаю тут быў, і з венікам, і з касою. Хто з чым!

Працавалася, звычайная справа. Найбольш Кастусь Майсеня зрабіў. Калі б не ён, то Божа мой... Адкуль у яго бярэцца столькі здароўя і сілы?! І вучні нашага ліцэя таксама стараліся — капалі, мылі, чысцілі, збіралі экспанаты... Каб толькі гэтая выстаўка ўдалася!

Заканчваць трэба музей — грошай трэба, грошай! А іх — не хапае! „Цаглінкі“ цяжка прадаюцца...

— Кожны гаворыць: „Я тут сам нічога не зрабіў“.

— О, Нікалаюк, вось, то-такі сапраўды зрабіў многа — дарагі чалавек, і час даваў, і сваю машыну. Ён ангажуецца!

— Кожны стараецца.

— Што я пры такіх, як Мікола Нікалаюк ці Майсеня! І Нэля Шчука так старалася з гэтай выстаўкай, перажывала. І Ілья Агіевіч — то ж усё і праз яго рукі прайшло... Міжнародная ж пабудова. І Мінск цяпер так стараецца дапамагчы, і Гродна. І людзі нашыя свой лес даюць на панель, падлогу, платы, рэжуць грамадска драўніну... Пабудова гэтая не на адзін год. У добры момант пачалі мы будаваць. Маглі б пачаць пару год раней, але плошчы пад будынкі не было, а і працаваць тады не вельмі было каму. А калі б цяпер хацелі распачаць будову — не змаглі б, абсалютна! А тэрыторыя такая цудоўная, і ў цэнтры горада. Лепш і не прыдумаеш! І дабудаваць яшчэ што-небудзь будзе месца. Прыязджаюць беларусы з цэлага свету — глядзяць: праўда, будуецца! — бачаць, на што іх грошы ідуць. І будзе называцца ён проста: „Беларускі музей“.

**АЛЯКСАНДР ІВАНЮК: „Гэта трывалы помнік усіх нас“.**

Пабудова музея — вельмі важная справа для нас, беларусаў, для нашай культуры. Пры пабудове выступаюць розныя праблемы і цяжкасці. Я думаю, што найбольшы цяжар лёг на гайнаўскі актыў, хаця, зразумела, мы стараемся пераканаць усіх, што справа Гайнаўкі — наша агульная справа. Наш ліцэй браў удзел ва ўсіх працах — і моладзь, і настаўнікі. Хачу сказаць шчыра, што ў адным аспекце мы, як школа, не выказаліся — я маю на ўвазе збор экспанатаў. Мы не зрабілі ўсяго, што можна было зрабіць. Можна было пры дапамозе вучняў правесці ў шырэйшым сэнсе кампанію збору экспанатаў. А праводзіцца яна даволі стыхійна.

Што значыць музей для нас? Гэта трывалы помнік усіх нас, гэта ж — вялікі помнік нашай культуры, традыцыі.

Гайнаўка прыняла на сябе найбольшы абавязак. Кожны з нас улажыў сюды нейкую долю. Персанальна ацаняючы — найбольшы тут уклад сябры Майсені. Трэба высока ацаніць працу гэтага чалавека. Але ў Гайнаўцы ёсць і іншыя грамадзяне, цесна звязаныя з пабудовай музея, вельмі актыўныя і працавітыя.

Я б кінуў сёння такі заклік да ўсіх, каб большая была мабілізацыя ўсіх беларусаў у справу пабудовы музея. Апошнім часам можна заўважыць вялікае зацікаўленне з боку прадстаўнікоў Савецкай Беларусі, якія вельмі сур'ёзна, з вялікай павагай адносяцца да гэтай справы і, што найважнейшае, даюць канкрэтную дапамогу.

**ВАСІЛЬ САКОЎСКІ: „Каб нам укараніцца...“**

Вельмі цяжка сказаць, ад каго найбольш залежала будова музея — ад аднаго чалавека ці ад двух асоб. Напэўна не, ад вельмі многіх. І надалей залежыць ад нашых дзеячаў, ад грамадскасці.

Як вучні падыходзілі да дапамогі ў пабудове музея? Экспанатаў мы яшчэ замнога не назбіралі. Тое, што маем у школе — мы зараз не вельмі хацелі б здаваць. Экспанаты збіраюцца вельмі даўно, і, калі ўжо будзе месца і будуць адпаведныя людзі, каб імі апекавацца, гэтых экспанатаў перадамо ў наш музей нямала.

Чым будзе гэты музей? Я думаю, што і для Гайнаўшчыны перад усім, і для Гайнаўкі, але і для цэлай нашай беларускай грамадскасці ў Польшчы і ўвогуле для ўсіх беларусаў — гэта вельмі важная рэч. Мы не маем цэнтра беларускасці, і вось музей напэўна будзе ім. Будзе пунктам паміж заходнімі і ўсходнімі беларусамі, не гаворачы пра тое, што гэта наш цэнтр, тут, у Польшчы, тут, на Беласточчыне. Было б гэта таксама месца сустрэч, а не толькі месца захавання нашай матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Плануем шмат, але ў многім гэта толькі яшчэ планы. Якія будуць у нас магчымасці? Невялікія. Каб наша грамадскасць будавала толькі музей. Будуем цэрквы, школы, аднаўляем іх. Грамадскасць наша невялікая, ды і не ўсе прыкладаюцца. Так што — сродкі нашы скромныя, і за іх усяго не зробім. Але найважнейшае, каб нам укараніцца, затрымацца, а далей памаленьку будзем і вы, і нашае пакаленне, і наступныя, прадаўжаць гэта. Дзякуй Богу, удалося нам распачаць у добры яшчэ час. Здаецца, ужо немагчыма было б пачаць гэта сёння, хаця і цяпер страх думаць, чым гэта ўсё кончыцца. Не хапае грошай, грошай, грошай... Вельмі добра, што не страцілі мы часу. Вельмі добра, што музей якраз у гэтым месцы. Лепшага месца ні ў Гайнаўцы, ні на Гайнаўшчыне, ні на Беласточчыне я не бачу. Гайнаўка ўвогуле спецыфічны цэнтр, цікавае месца. Лепшага, здаецца, знайсці немагчыма. Бог нам дапамог у гэтым, а рэшту самі сабе павінны зрабіць. Цяпер трэба толькі грошы збіраць, збіраць і дапамагаць, падключацца, працаваць...

**Запісала: Міра Лукша**

## Гісторыя і сучаснасць Беларускага музея

(Працяг са стар. 3)

ніцтва і ўстаноў усяго 318 тысяч злотых. Не чакаючы пабудовы памяшкання, быў пачаты энергічны збор экспанатаў і часовае ахоўванне іх у былым складзе ГС у Нараўцы і некалькіх пачатковых школах. У 1964 годзе было іх ужо 330. Нечакана ў гэтым часе ў Белавежы гмінная спулдзельня „Самапомач хлопска“ пакінула займаны раней прыватны драўляны будынак, уласнасць сям'і Вашкевічаў. У рамках супрацоўніцтва з БГКТ было вырашана арганізаваць этнаграфічны музей. Стэнаграма з пасяджэння праўлення ГС і прэзідыума ГП БГКТ друкавалася ў „Беларускім календары“ на 1967 год.

### ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ У БЕЛАВЕЖЫ

Музей у Белавежы (этнаграфічны, рэгіянальны, беларускі, грамадскі) быў адкрыты 12 сакавіка 1966 года пасля рамонту, праведзенага сіламі штатных працаўнікоў БГКТ, але дзякуючы будаўнічым матэрыялам ГС у Белавежы. Характэрна, што ў ім так, як і зараз, першая экспазіцыя была наладжана ў трох залах на агульнай плошчы 100 кв. метраў. Каля 500 экспанатаў падзелена на тры аддзелы: сельскагаспадарчых прыладаў працы, ганчарства і пляцёнак, апрацоўкі ільну.

Музей развіваўся добра. У зборы новых экспанатаў не было цяжкасцей. Сяляне ахвотна, бясплатна перадавалі выкананыя сваімі рукамі прадметы і лічылі гэта за гонар (зараз гонар часта трэба падмацоўваць грашыма). Абслугоўванне наведвальнікаў і апрацоўку экспанатаў узялі на сябе этнографы: Мікалай Лобач, Уладзімір Гацута і іншыя. Вельмі хутка музей заваяваў сабе папулярнасць. У 1966 годзе Музей наведала 6 тысяч турыстаў, у 1968 годзе — 8 тысяч, у 1970 годзе — 14,6 тысяч, у тым ліку 900 замежных, а ў апошнім 1971 годзе — 11,6 тысяч турыстаў. Аб музеі вельмі прыхільна пісаў мясцовы друк. Для сусветнага цэнтра турыстыкі, якім з'яўляецца Белавежа, Беларускі музей станавіўся яшчэ адным атракцыёнам.

Здавалася, што маленькі музей з часам станецца сапраўднай навукова-асветнай пляцоўкай. Сталася аднак інакш. У пачатку сямідзесятых гадоў змянілася палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Вельмі хутка падхапілі яе ўлады Беласточчыны. Спачатку БГКТ не атрымала і так скромных сродкаў на ўтрыманне музея і бягучы рамонт будынка. Пачаліся дыскусіі на тэму патрэбы існавання музея. 22 красавіка 1970 года (звыш года да закрыцця) Прэзідыум ГП па прапанове яго сакратара Янкі Зенюка прыняў пастанову аб перадачы экспанатаў Акруговаму музею ў Беластоку дзеля пракансервавання і экспанавання як забыткаў беларускай культуры. Камісійна было перададзена ўпамянутаму музею 987 экспанатаў без дадатковых абумоўленняў 31 мая 1973 года. Значна раней уласнік будынка запатрабаваў яго звароту, а ў палове 1972 года звольнілі з працы адзінага музейнага працаўніка Уладзіміра Гацуту. Існуючы яшчэ грамадскі камітэт пабудовы музея з гэтым не згадзіўся і вырашыў з сабраных сродкаў утрымліваць музей да канца турыстычнага сезона 1971 года (да зімы). Апошнія сумы камітэт перадаў ГП БГКТ і распусціўся. Аб музеі стала ціха да канца дзесяцігоддзя.



*Крушыняны. Вугло хаты Вінцука КахаAноўскага, збудаванай у 1945 г.*

### БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ

На хвалі падзей васьмідзесятага года ў нашай краіне аджыла справа аднаўлення этнаграфічнага музея. Цэнтральныя і мясцовыя ўлады згадзіліся з патрабаваннямі БГКТ, але адпаведнага памяшкання для наладжання новай экспазіцыі не мелі ні ў Белавежы, ні ў Беластоку. Увагу гайнаўскага актыву прыцягнулі пакінутыя Дрэваапрацоўчым камбінатам мураваныя будынкі былога паркетнага цэха. 29 чэрвеня 1983 года па прапанове ГП БГКТ начальнік горада Гайнаўка перадаў адзін з гэтых будынкаў таварыству. Развалены будынак плошчай 860 кв. метраў, невялікі гаспадарчы будынак і 0,83 га прылеглай да іх плошчы, парослай зеллем, стваралі ў цэнтры горада вельмі непрыемны вобраз занядбанняў. Загаспадаранне ўсяго комплексу патрабавала значных фінансавых сродкаў, якіх БГКТ не мела. Праблему ўскладняла цяжкое эканамічнае становішча ў краіне.

## „БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ“

*З нагоды адкрыцця*
*Беларускага музея ў Гайнаўцы*

**Казалі нам, што ў вочы рэжа**
**І што псуе турыстам кроў**
**Музей няпольскі ў Белавежы**
**Паміж дубоў, паміж зуброў.**

**Нялюдскім варварскім загадам,**
**Як крывадушнік-фарысей,**
**Хутка ліквідавалі ўлады**
**Этнаграфічны наш музей.**

**Даробак знішчылі багаты**
**Нашых сяліб, нашай зямлі**
**І унікумы-экспанаты**
**У Цехановец аддалі.**

**А мы, упартыя, гадамі**
**З ахвяр грашовых землякоў**
**З натугаю будуем самі**
**У Гайнаўцы музей ізноў.**

**І ў павільёне ўжо гатовым,**
**Што вырас нам, як прыгажосць,**
**Музей мы адкрываем новы**
**Усім праціўнікам на злосць.**

**Дык, людцы добрыя, у хатах,**
**На панадворках чым хутчэй**
**Збірайце зноўку экспанаты,**
**Узбагачайце наш музей!**

**Віктар Швед**

# З вандровак па роднай зямлі

**(Працяг са стар. 5)**

Вестка аб „Катэрцы“ разносілася ўсё далей і далей. Многія пачалі падавацца сюды, спадзеючыся на ласку аздараўлення. Многія гэтую ласку атрымлівалі. Але вывілася адначасова складаная сітуацыя. Духоўныя ўлады не хацелі прызнаць святасці таго месца і ўсялякімі спосабамі стараліся не дапусціць да пашырэння культу ў народзе. Загадалі нават перанесці крыж з урочышча на могілкі. Эфект быў такі, што з месца, дзе стаяў крыж, пачала біць крыніца. Царкоўныя ўлады, нягледзячы на просьбы тутэйшага святара ды насельніцтва, не хацелі даць дазволу на пабудову нават каплічкі. Улады лічылі, што Е. Івашчук толькі распаўсюджвае „забабоны“. Бачачы такую пасіўнасць праваслаўных, каталіцкія ксяндзы з недалёкага Янава пачалі раздумваць над пабудовай на „Катэрцы“ свае́й капліцы або і касцёла. І можа гэта стала прычынай змены становішча царкоўных улад.

У 1906 г., на трэці дзень св. Тройцы адбылася першая дазволеная, урачыстая працэсія з такарскага прыхода ва ўрочышча „Катэрка“. А праз некалькі гадоў на гэтым балоцістым месцы пачалася пабудова царквы. 29 ліпеня 1912 года архімандрыт Серафім з Яблачына высвяціў храм на „Катэрцы“ ў чэсць іконы „Всех Скорбящих Радость“. Царква шчасліва перажывала І сусветную вайну. У міжваенны перыяд „Катэрка“ стала месцам пілігрымак. Людзі няслі з сабою, як і на Грабарку, пакутныя крыжы... Пасля II сусветнай вайны храм на „Катэрцы“ апынуўся на баку Польшчы. Тут быў заснаваны праваслаўны прыход.

Аб святым месцы каля Такароў ведаюць цяпер нямногія. Не прыбываюць сюды паломнікі як некалі. Усё менш людзей у прыходзе. Даўнейшая слава пераходзіць у забыццё. Ці ж збываюцца ўжо наступныя словы прадказання?

* * *

Быццам колішнія пілігрымы, і мы ў канцы вандроўкі прыйшлі да святога месца. Як прыгожа гучаць царкоўныя спевы ў „казачнай“ царкоўцы сярод векавога лесу. Смакуем ваду з цудоўнай крыніцы. Астаўляем на малітаўну памяць свой крыжык, спадзеючыся, што Багародзіца будзе нам, як і продкам нашым, дапамагаць на ўсякім шляху.

**Мікола Сахарэвіч**

## ВЫПАДКОВАСЦЬ

Што тут не гавары, а ўсе шчасці і няшчасці на гэтым свеце — усе праз выпадковасць.

Бывае так, што ідзеш сабе дадому з працы і зусім выпадкова сустрэнеш нейкую незнаёмую дзяўчыну. І закахаешся ў яе насмерць.

Так здарылася і з маім сябрам Мішам.

Вяртаўся ён з працы. Думаў ісці адразу дадому, але пасля перадумаў, рашыў пайсці ў парк. На сваю бяду пайшоў хлопец! Бачыць: ідзе прывабная бландзіначка. У Мішы сэрца пікнула. Устаў з лаўкі — ды за паненкай.

— Ты мне так спадабалася! — крыкнуў. — Я закаханы ад першага погляду. Як цябе завуць?

Бландзінка паглядзела на яго:

— Адчапіся, хлопец. Я ўжо замужам. Ідзі да дзяўчат.

Аднак Міша — упарты хлопец. Пайшоў следам за ёю. „Правёў“ дзяўчыну пад яе дом. Пасля штодзённа стараўся пабачыць яе.

Жанчына абуралася. Крычала, што скажа мужу. Міша не слухаў. Аднойчы Мішу ўбачыў муж жанчыны.

— Ты чаго хочаш? Ты хочаш сям'ю разбіць?!

— О, — засмяяўся Міша. — Які з цябе муж?!

Мужчына ўпялюшчыў Мішу так, што небарака аж пакаціўся па тратуары.

Шкада хлопца! А ўсё праз гэту выпадковасць!

**Аўрора**




НАТАША, 56 гадоў. Удава, вышэйшая адукацыя. Пазнаёміцца з добрым, сумленным і інтэлігентным беларусам.

*

МАРКО, 21 год. Невысокі, неспакойны, небагаты (матэрыяльна), незалежны, з Беласточчыны, шукае сяброў, непадобных да іншых.

*

АЛЯ (23) і ЮРКА (30), маладая сям'я з дзіцяткам, пазнаёміцца з падобнай сям'ёй з СССР, Беларусі ці з Захаду.

*

ХМАРКА, 32 гады. Пазнаёмлюся з беларусамі з Аўстраліі.

*

ЗІНА, 52 гады. Чакаю лістоў ад людзей рознага ўзросту, якія хочуць, як і я, аднавіць сваё духоўнае жыццё і яшчэ мараць перамяніць свет.

Спадзявацца на дапамогу было нельга. Ізноў вакол БГКТ пачалі гуртавацца людзі, якія не маглі пагадзіцца са стратай папярэдняга музея. 8 чэрвеня 1984 года былі створаны чарговы, трэці ўжо, Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы, які ўзначаліў Кастусь Майсеня. Назва недарэчная, кампрамісная і рэдка нават ужываная, але не ў ёй справа. Камітэт прыняў вельмі амбітны статут, акрэсліў членства звычайнае і ўспамагаючае, прыняў зварот да насельніцтва і ўстаноў, выпусціў прыгожыя „цаглінкі“. З яго мэтамі пазнаёміў грамадства друк, а „Ніва“ ўвяла пастаянную рубрыку „Музейны фонд“. Да канца 1985 года сабрана амаль 6 млн. злотых і 1100 долараў. Сродкі гэтыя дазволілі на падрыхтоўку праектнай дакументацыі. Вырашана было планаваць з размахам, а пабудову рэалізаваць этапамі праз многія гады. Агульны кошт пабудовы акрэслены тады быў на 150 млн. злотых.

Восенню 1985 года пачаліся рамонтна-адаптацыйныя працы: без грошай, без будаўнічых матэрыялаў і пры дапамозе выпрашанага ў мясцовых уладаў выканаўцы. „Грамадская пабудова“ згодна з тагачасным заканадаўствам магла разлічваць на тры крыніцы фінансавання: ахвяраванні і ўклад працы насельніцтва, дараванні дзяржаўных устаноў і дафінансаванні з дзяржаўнага бюджэту. Да канца 1987 года з усіх крыніц было атрымана каля 24 млн. злотых. Будаўнічыя працы вяліся даволі інтэнсіўна і ашчадна. Найбольшай перашкодай заўсёды быў недахоп фінансавых сродкаў, а ў апошні 1990 год — бязлітасная інфляцыя. Непамерна ўзрасла вартасць пабудовы. У 1988 годзе складала яна яшчэ 46 млн. злотых, у 1989 годзе — 133 млн., у першым квартале бягучага года — 169 млн. злотых, а зараз ацэньваецца на 1,5—2 млд. злотых. Разрэгуляванне гаспадаркі ў краіне і спадак эканамічнага ўзроўню жыцця насельніцтва выклікалі раптоўнае змяншэнне ахвяраванняў. На некарысць музея змяніліся магчымасці дзяржаўных і грамадскіх устаноў. У першай палове бягучага года былі ўстрыманы ўсе будаўнічыя працы, а на банкавым рахунку знаходзілася ўсяго 5—10 млн. злотых. Невялікае ажыўленне наступіла ізноў у бягучым паўгоддзі. Выклікала яго зацікаўленне ўладаў БССР дапамогай музею ў Гайнаўцы.



*Зубава. Вугло хаты Ціхана Паўлава, збудаванай у 1925 г.*

Падрыхтавана на 27 кастрычніка гэтага года першая музейная экспазіцыя ў трох залах часткі „А“ музейнага будынка. Пабудова некалькіпавярховай часткі „Б“ плошчай каля 1200 кв. метраў дасягнула „сырога стану“. Значная паверхня яе прызначаецца на кіназалу, бібліятэку, клуб-кавярню, гасцініцу на 40 месц, адміністрацыйныя памяшканні. Вартасць выканчальных прац акрэсліваецца амаль на 800 млн. злотых.

Рэалізацыя апошняй часткі музейнага будынка „Ц“ агульнай плошчай каля 700 кв. метраў прадугледжваецца на 1991—1995 гады. Згодна з праектам пабудовы менавіта гэтая частка мае змяшчаць экспазіцыйныя залы. Цэлы комплекс дасягне 2750 кв. метраў паверхні і будзе найболыш сучасным музеем на Беласточчыне. Многа яшчэ трэба ўкласці працы, каб будынак мог выконваць належную яму функцыю.

Дзякуючы самаахвярнай грамадскай працы мясцовых беларускіх дзеячаў завершаны першы этап пабудовы музея. Шчырая падзяка старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Музея Кастусю Майсеню, яго намеснікам Уладзіміру Пятрочуку і Янку Хіліманюку, сакратару Панцялею Марозу, скарбніку Аляксандру Плеве, а таксама актывістам Мікалаю Нікалаюку, Мікалаю Клімюку, Пятру Бурылу, Юрку Кендысю, Аляксандру Бандаруку, Уладзіміру Сахарчуку, Аляксандру Іванюку, Віктару Кірылюку, Міраславу Навіцкаму, Віктару Буры і многім, многім іншым.

Для напаўнення пабудовы зместам мы яшчэ зрабілі вельмі мала. Сабрана каля 300 экспанатаў, пачата дыскусія над напрамкамі гаспадарчай дзейнасці, якая дазволіла б павялічыць фінансавыя сродкі на нармальную дзейнасць усяго музейнага комплексу, атрымана з БССР частка абсталявання, дадзена паўтара штата працаўнікоў. Патрэбны ўжо грамадскія і штатныя музеязнаўцы. Трэба лічыць, што разам з перадачай новых музейных памяшканняў усе праблемы будуць паспяхова вырашацца.

**У. Юзвюк**

**Фота аўтара**

 

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

**11. Дзеяслоў — працяг.**

Дзеясловам характэрная катэгорыя **асобы,** якая паказвае, хто з'яўляецца ўтваральнікам дзеяння:

— той, хто гаворыць (1 асоба),
— той, да каго звяртаюцца з мовай (2 асоба),
— той, хто не ўдзельнічае ў размове (3 асоба).

Катэгорыя асобы можа выражацца з дапамогай:

— асабовых канчаткаў дзеясловаў у формах цяперашняга і будучага часу абвеснага і загаднага ладу: **пiш-у, гавор-ыце, скаж-уць; пiш-ы, гавар-ыце, скаж-ам,**
— асабовых займеннікаў: **я, ты, ён (яна, яно), мы, вы, яны,**
— назоўнікаў і другіх субстантываваных часцін мовы (для выражэння 3 асобы): **маці, брат, паляўнічы, старыя** (бацькі).

Ёсць група дзеясловаў, якія абазначаюць дзеянне як бы само сабою, без дзеючай асобы. Гэтыя дзеясловы не маюць асобы і адтуль іх назва — **безасабовыя.**

Безасабовыя дзеясловы абазначаюць:

— з'явы прыроды: **днее, світае, вечарэе, змяркаецца, цямнее, марозіць,**
— дзеянне невядомай або стыхійнай сілы: **дзьме, зацягнула, замяло,**
— фізічны і псіхічны стан чалавека або іншай жывой істоты: **нездаровіцца, нядужыцца; верыцца, жадаецца,**
— магчымасць, неабходнасць дзеяння: **давялося (напісаць), спатрэбілася (паехаць).**

Безасабовыя дзеясловы могуць быць зваротныя **(думаецца, нездаровіцца)** і незваротныя **(днее, марозіць).**

Сярод незваротных дзеясловаў выдзяляюцца:

— уласна безасабовыя дзеясловы: **вечарэе, світае, цямнее,**
— асабовыя дзеясловы, якія ўжываюцца са значэннем безасабовых: Усё больш **яснела** на ўсходзе. (Сам.); Людзі стаміліся, іх **хіліла** да сну, **шумела** ў вушах. (Шам.). Такія асабовыя дзеясловы выступаюць у асабовых сказах, параўн.: **А зямля ўжо яснела,** а зямля ўжо грымела ад Палесся да Дзвіны. (Панч.); А за вокнамі **шумела навальніца.** (Хадк.).

Асабовыя дзеясловы змяняюцца ў цяперашнім і будучым простым часе па асобах і ліках. Такое змяненне называецца **спражэннем.** Выдзяляюцца два тыпы спражэнняў дзеяслова **(першае і другое),** якія залежаць ад асабовых канчаткаў дзеясловаў.

#### I СПРАЖЭННЕ

| | адзіночны лік | множны лік |
|---|---|---|
| 1-я асоба | **-у(-ю):** пiш-у, чыта-ю | **-ём (-ем, -ом, -ам):** ідз-ём, чыта-ем, бяр-ом, пiш-ам |
| 2-я | **-еш (-эш, -аш):** чыта-еш, бяр-эш, пiш-аш | **-еце (-яце, -яцё, -аце, -ацё):** няс-еце (нес-яце, нес-яцё), сеч-аце, сеч-ацё |
| 3-я | **-е (-э, -а):** чыта-е, бяр-э, пiш-а | **-уць (-юць):** няс-уць, чыта-юць |

#### II СПРАЖЭННЕ

| | адзіночны лік | множны лік |
|---|---|---|
| 1-я асоба | **-у:** гавар-у, каш-у | **-ім (-ым):** кос-ім, гавор-ым |
| 2-я | **-іш (-ыш):** кос-іш, гавор-ыш | **-іце (-ыце):** кос-іце, гавор-ыце |
| 3-я | **-іць (-ыць):** кос-іць, гавор-ыць | **-аць (-яць):** кос-яць, гавор-аць |

Дзеясловы I і II спражэнняў найлягчэй адрозніць па 2-й асобе адзіночнага ліку і 3-й асобе множнага ліку:

| | I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|---|
| 2-я ас. | **-еш (-эш, -аш)** | **-іш (-ыш)** |
| 3-я ас. | **-уць (-юць)** | **-аць (-яць)** |

Ёсць дзеясловы, якія маюць канчаткі розных тыпаў скланення. Называюцца яны **рознаспрагальнымі** дзеясловамі. Да такога тыпу дзеясловаў належаць дзеясловы **есці, даць, бегчы:**

**адзіночны лік**

| асоба | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я | ем | дам | бягу |
| 2-я | ясі | дасі | бяжыш |
| 3-я | есць | дасць | бяжыць |

**множны лік**

| асоба | | | |
|---|---|---|---|
| 1-я | ядзім (ямо) | дадзім (дамо) | бяжым |
| 2-я | ясце | дасце | бежыце |
| 3-я | ядуць | дадуць | бягуць |

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны Астроне! Я збіралася ў падарожжа. Мы мелі ехаць у камандзіроўку, а везці нас павінен быў надта малады, нявопытны яшчэ шафёр. Перад гэтай паездкай мне прысніўся нядобры сон. Быццам бы знаходзілася я ў нейкім поездзе. Там быў нейкі паміраючы чалавек, які быў маім сваяком. Нарэшце ўбачыла я трупа, нешта там гніло.

Мне было вельмі страшна ехаць на другі дзень у камандзіроўку. Паколькі мы выехалі ўначы, усе, хто сядзеў ззаду, спакойна сабе драмалі, а я мучылася, цэлую ноч не заплюшчыла вачэй, бо амаль была перакакана, што вось зараз наш малады шафёр засне і мы ўсе паляцім у адхон. Адным словам, я пільнавала, каб ён не заснуў. Аднак жа нічога не здарылася і мы шчасліва даехалі да Катовіц. Так жа шчасліва мы вярнуліся дахаты, аднак жа тут мяне чакала непрыемная вестка. І то тады, калі я ўжо падумала, што не варта верыць снам. Высветлілася, што, калі мяне не было, памёр мой вельмі блізкі сваяк, памёр страшэннай, гніючай смерцю. А мне ж, калі той сон прысніўся, адразу падумалася пра нейкую небяспеку, а нават і смерць. Таму я і баялася ехаць.

**Анеля**

Анеля! Ты свой сон адгадала надта добра, але прыпісала яго чамусьці сабе, а не сваяку.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка! Было гэта амаль сорак гадоў таму назад. Тады не было мне яшчэ і дваццаці год. Пазнаёмілася я з прыстойным тэхнікам-будаўніком, які прыехаў у Беласток на нейкую будову. Мы пакахалі адно другое. Пра сябе не магу гаварыць замнога, але ён быў вельмі прыгожы. Тры тыдні мінулі, як адзін цудоўны сон. Мы хадзілі ўсюды разам, а ён заўсёды быў з неадлучнай гітарай і цудоўным тэнарам спяваў наймаднейшыя песні. Я была амаль упэўнена, што гэта каханне на ўсё жыццё. Мой хлопец паехаў дахаты, на Шлёнск, абяцаючы, што вернецца вельмі хутка і мы пажэнімся. Сэрцайка, не падумай толькі, што я адразу аддалася яму. У часы маёй маладосці ў пасцель так хутка не ішлося. Мы кахалі адно другое чыстым платанічным каханнем. І я свята верыла, што вернецца ён так, як абяцаў.

Але лёс падыктаваў нам іншае. Праз два тыдні ад яго ад'езду я атрымала страшэннае пісьмо ад нейкай жанчыны. Што вось, маўляў, жыве яна з ім, як жонка з мужам, ужо больш года. Што яна яго вельмі кахае і нікому ніколі не аддасць. І ён яе кахае таксама.

Мне стала страшна і крыўдна. Як мог ён мяне так ашукаць! Гэта ж падумаць, жывучы з жанчынай, яшчэ дурыць галаву дзяўчыне. Гэтай яго каханцы я, вядома, пісаць не хацела, але яму напісала ўсё, што думаю на яго тэму, а наогул прасіла, каб больш не прыязджаў. Ён аднак жа не паслухаўся мяне і прыехаў. Прасіў, маліў, абяцаў, што ён заўсёды будзе толькі са мною. Але я ўжо на яго тэму мела асаблівы погляд. Такога мужа мне не трэба, сказала я яму.

І так нашыя дарогі разышліся. Здарылася так, што ён пазней атрымаў прапанову добрай працы ў Беластоку і пераехаў сюды. Тут ён ажаніўся з іншай, тут нарадзілася яго двое дзяцей. Аб гэтым мне гаварылі мае знаёмыя, але мы з ім за гэтых сорак гадоў не сустрэліся ані разу.

І вось цяпер, калі я ўжо амаль стала пенсіянеркай, пэўнага разу ён пазваніў мне на работу. Добры дзень, кажа, гэта я. Ці пазнаеш мяне? І расказаў пра ўсё яго жыццё. Год таму назад памерла яго жонка, і тады ён ізноў пачаў думаць пра мяне. Перагледаў альбом са здымкамі. Натрапіў на адзін. Была толькі палавіна здымка — тая, дзе быў ён. Другая палавіна была яго жонкай адарвана, там была я. Гэты здымак мы зрабілі сорак гадоў назад у Беластоку, на памятку на ўсё жыццё. А на маім здымку.., засталася толькі я. І мой муж-нябожчык у свой час адарваў гэтага майго каханага.

З двух асколачкаў ён зляпіў новы здымак і зрабіў адбітку. Прынёс мне і кажа: „Гэта нам на новае шчасце, ізноў мы разам!“. І стаў прыходзіць да мяне часта, амаль штодзень. А ў мяне ён выклікае мешаныя пачуцці: ці ж можа аднавіцца праз сорак гадоў тое, што даўно прайшло і перагарэла?! Столькі ж часу прайшло, сем'і ў нас ёсць, хаця і я ўжо ўдава... Людзі кажуць, што была б з нас цудоўная пара яшчэ і цяпер, а ў мяне вось у сэрцы ўсё неяк пагасла. А што ты, Сэрцайка, параіш мне на ўсё гэта?

**Эмілька**

Эмілька! Жыццё так лёгка, як фатакартачку, не склеіш. І пачуццяў не вернеш па заказу. Але можа патрэбны ён табе як прыяцель, як чалавек, які ўнясе нейкі новы прамень у тваё ўдавінае жыццё?! Падумай крыху, разбярыся ва ўсім гэтым! Жыццё, яно бывае часам вельмі шматграннае.

**Сэрцайка**




### САЛАТА З БУРАКОЎ

На 30 дэкаў буракоў узяць 1 яблык, 4 лыжкі дробна пасечанай зялёнай пятрушкі, 1 цыбулю, 2 лыжкі алею, паўшклянкі смятаны, соль і цукар па смаку, лімонны сок, перац.

Буракі дакладна памыць, абабраць, сцерці на дробнай бульбяной тарцы. На салату падыходзяць буракі, якія перахоўваюцца не даўжэй, як да канца лютага. Яблык памыць, абабраць, сцерці на бурачанай тарцы, цыбулю абабраць, спаласнуць, нарэзаць дробнай костачкай. Усё перамяшаць з алеем і смятанай, дадаць па смаку солі, перцу, цукру і лімоннага соку. Падаваць салату на лістках зялёнай салаты, пасыпаць пятрушкай.

### САЛАТА З ЯБЛЫКАЎ

На паўкілаграма кіслых яблыкаў трэба ўзяць 10 дэкаў сэлера, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 4 лыжкі смятаны, соль, перац і цукар па смаку, лімонны сок, 2 лыжкі пасечаных арэхаў.

Яблыкі памыць, абабраць, сцерці на бурачанай тарцы, такім жа чынам падрыхтаваць сэлер. Усё спырснуць лімонным сокам, дзякуючы якому прадукты застануцца светлымі. Перамяшаць з арэхамі, зелянінай, смятанай і заправіць па смаку соллю, цукрам і перцам. Падрыхтаваную салату пераламыць у салатніцу і прыбраць чырвонай папрыкай або часцінкамі памідораў.

### САЛАТА З МОРКВЫ

На 30 дэкаў морквы трэба ўзяць 15 дэкаў яблыкаў, 3 лыжкі густой смятаны, канцэнтрат дзікай ружы ці закваску з буракоў.

Моркву памыць, пачысціць, сцерці на бурачанай тарцы, перамяшаць з яблыкамі, падрыхтаванымі такім жа чынам, і са смятанай, заправіць па смаку квасам, соллю і цукрам.

**Гаспадыня**



 

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## У СТАРЫМ КОРНІНЕ

Пасля доўгіх зацяжных дажджоў зноў выглянула сонейка, выманьваючы дзяцей са школьных калідораў на лавачкі, спартыўныя пляцоўкі або проста прагулянца. Прыемна адчуць на сабе дотык ласкавага праменьчыка „бабінага лета“.

У такой асалодзе адпачынку ў час школьнага перапынку застала я школьнікаў на лавачцы ў Старым Корніне.

На маё пытанне, ці карыстаюцца яны яшчэ мовай бацькоў, адказ быў дружны і аднназначны:

— Вядома.

— Нават праз сон, — пажартаваў адзін з настаўнікаў.

І сапраўды. Тут, у Старым Корніне, беларуская мова — гэта мова жыцця, дому, нават школы, хоць урокі, як вядома, вядуцца па-польску.

У гэтай школе ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Разам з настаўнікам яны чытаюць „Ніву“ і „Зорку“, знаёмяцца з беларускай гісторыяй, дбаюць пра захаванне мясцовых традыцый, вучацца спяваць беларускія песні.

На здымку — васьмікласнікі. А за імі, зараз за плотам ад школьнага панадворка, — прыгожая вясковая царква.

Тэкст і фота Я. Чэрнякевіч

НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ

Алег Мінкін

# Як Лыска ваўком стаў

**П'ЕСА Ў ТРОХ ДЗЕЯХ**
Паводле беларускіх народных казак

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:**
Дзядзька Якуб.
Кравец.
Сабака Лыска.
Воўк.
Конь.
Свінка.
Баран.
Гусак і дзве гускі.

*Заўвага. Усе дзеючыя асобы ў беларускай народнай вопратцы.*

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*Злева на сцэне ўзгорак з травою і кветкамі. Гэта луг. Справа плот, сабачая будка, хата. Уверсе над сцэнай месяц, зоркі. Каля будкі сядзіць і пазяхае Лыска.*

Лыска *(да гледачоў).* Ы-ы-ы, што за нудота ўсю ноч сядзець каля плота, гаспадарава дабро вартаваць ды свінку ад ваўка пільнаваць. *(Пазяхае).* Вох, як спаць ахвота. Лягу на зямлю ды трохі падрамлю. А вушы заткну ватай — не разбудзіць і гармата!

*Лыска дастае з кішэні вату, затыкае вушы і кладзецца спаць. Злева на луг выбягае Воўк. Ён крадзецца да плота.*

Воўк *(ціхенька, потым гучней).* Лыска, Лыска, Лыска! *(Да гледачоў).* Заснуў лайдак Лыска. Не ведае, што воўк ходзіць блізка. Даўнютка я нічога не еў: вось зараз падкрадуся ў хлеў ды ўхаплю свінку за свіную спінку.

*Воўк пералазіць цераз плот, крадком прабягае двор і знікае за хатай. Неўзабаве вяртаецца, цягнучы за сабой Свінку.*

Свінка *(крычыць).* Лыска! Лыска! Уставай! Цягне воўк мяне ў гай! Хоча ў лес мяне знесці! Хоча бедную з'есці!

*Лыска пазяхае і пераварочваецца на другі бок. Воўк спрабуе пералезці цераз плот. Свінка вырываецца, бегае па двары. Воўк ганяецца за ёю.*

Воўк. Стой! Усё роўна дагоню! Даганю і праглыну!

Свінка. Барані мяне, дзядзька Якуб! Стрэльні па ваўку!

*З хаты выбягае дзядзька Якуб са стрэльбаю. Страляе ў Ваўка. Воўк з енкам пераскоквае цераз плот і знікае за сцэнай. Дзядзька Якуб і Свінка падыходзяць да Лыскі, які па-ранейшаму спіць.*

Дзядзька Якуб *(б'е Лыску).* Лайдак! Гультай! Ану ўставай! Так ты двор сцеражэш! Так ты дабро беражэш! За тое, што не ўпільнаваў Свінку, не дам табе нават скарынку! Сядзі сабе так, абібок ты, лайдак!

*Лыска паводзіць сябе вінавата, апусціўшы галаву. Дзядзька Якуб і Свінка ідуць у хату. Лыска вымае вату з вушэй.*

Лыска *(пакрыўджана, да гледачоў).* Ну вось, зноў атрымаў кухталёў. Служыш, служыш — і ніякай падзякі... Эх, дрэнна жывецца сабаку. *(Задумваецца).* Добра ў лесе ваўку: ляжы сабе цэлы дзень на баку. А захацеў падсілкавацца — не трэба нікому пакланяцца: зарэзаў барана ці каня — і сыты штодня!

(Працяг на стар. 10)

Ніл Гілевіч

## ВОСЕНЬ

Сонца палкасць траціла.
Блякла неба просінь
Неўпрыкмет за працаю
Падступіла восень.

Свой прыход засведчыла
Школьнымі званкамі,
Пахам бульбы печанай,
Што прыплыў з дымкамі.

Раніцамі познімі
Каля ўсіх аселіц,
Над хмызнём і пожнямі
Туманы віселі.

Статкі там на выпасе
Скубалі дасыта.
Часта дожджык сыпаўся
Дробны, як праз сіта.

Пні цвілі апенькамі —
Сотні сот сямеек!
Зрэдку птушкі звенькамі —
Без імпэту неяк.

Спрытна шышкі лушчылі
Шустрыя вавёркі.
Вожыкі калючыя
Уцяплялі норкі.

Вербы задуменныя
Плакалі без сілы,
Пятакамі меднымі
Сыпалі асіны.

Жураўлі курлыкалі
Так трывожна ў высі,
Нібы іншых клікалі:
— Што ж вы засталіся?

Ды ў адказ на вокліч іх,
Роспачны і сумны,
Набівалі воллечкі
Вераб'і на гумнах.

Чырванелі гронкамі
Каля хат рабіны.
Нібы ў трубы громкія,
Дзесь ласі трубілі.

Выглядалі крушнямі
Гарбузы ў застрэшшы...
Зноў Сяргейка ўзрушаны
Быў увесь дарэшты:

— Хто хлусіў, што восенню
Толькі гразь ды хлюпа?
Наша восень — вось яна —
Мне бясконца люба!

### ЗАДАННЕ ДЛЯ ЎСІХ

Чытаючы верш, прыпомніце, ці не бачылі вы вакол сябе такія з'явы. А калі хто прыпомніць, дык няхай возьме каляровыя алоўкі і ўсё гэта прыгожа намалюе.

Калі каля вас ёсць нешта яшчэ больш прыгожае, таксама намалюйце і прышліце ў „Зорку“ на конкурс. За найпрыгажэйшы малюнак восені будзе цікавая беларуская кніжка.

Калі нехта з вас лепш умее прыгожа апісаць восень, чым яе намаляваць, можна прыслаць і апавяданне.

„Зорка“ чакае.



Фота В. Жушмы

(Працяг са стар. 9)

# Як Лыска ваўком стаў

*Лыска пазяхае і кладзецца спаць. Да плота падбягае Воўк.*

Воўк *(ціхенька)*. Лыска!

*Лыска ўзнімае галаву. Воўк хаваецца за плот.*

Лыска. Гэй, Воўк! Чаго ты прымоўк? Не бойся, не буду я на цябе брахаць, бо і сам хачу ваўком стаць.

Воўк *(выглядае з-за плота)*. А што ў цябе за гора?

Лыска. Дзядзька Якуб мяне голадам морыць. Не хачу я больш служыць вартаўніком — навучы, як мне стаць ваўком.

*Воўк пералазіць цераз плот, падыходзіць да Лыскі.*

Воўк. Добра, навучу. Толькі есці я вельмі хачу. *(Нахіляецца над Лыскавай міскай)*. Лыска, а Лыска, з чым гэта твая міска?

Лыска. З куляшом. Я яго не з'еў, бо ён мне вельмі абрыдзеў: дзень пры дні кулеш ды кулеш! *(Воўк тым часам прагна есць)*. Еш, шэры, еш. Пэўна, надакучыла мяса, дык ты і на кулеш такі ласы... А мне ж так хочацца свежанінкі — аж цягнуць слінкі!

Воўк *(аблізваецца)*. Ну вось, Лыска, я і пад'еў. А цяпер цягне мяне ў спеў!

Лыска. Што ты, шэры! Пачуе дзядзька Якуб — надзярэ табе чуб і мяне зноў пачне біць.

Воўк. Так язык свярбіць, што сцярпець не магу-у-у. *(Запявае)*. Гу-у-у, гу-у-у...

Лыска. Не так ты спяваеш, не так! Вось я дык сапраўдны спявак. *(Падпявае)*. Гаў-гаў! Гаў-гаў!

*З хаты выбягае дзядзька Якуб.*

Дзядзька Якуб. Не каб двор вартаваць, дык ён з ваўком спяваць!

*Дзядзька Якуб страляе ў Ваўка. Воўк кумільгом пералятае цераз плот і знікае за сцэнай. Лыска ўцякае следам за ім.*

**Заслона.**

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ.**

*Лясная сцяжына. На заднім плане некалькі дрэў. Злева пры сцяжыне куст. Справа выбягае Воўк, а за ім Лыска. Яны спыняюцца каля куста.*

Воўк. Вох, як дзядзька Якуб мяне напалохаў — дагэтуль трасуцца ногі.

Лыска. І мяне — аж мурашкі бягуць па спіне.

Воўк. Ну, Лыска, мне пара дамоў. Да спаткання! Будзь здароў!

Лыска. Шэры! Ты забыўся пра абяцанне! Зрабі ж мяне ваўком на развітанне.

Воўк. Добра. Садзіся пад куст лазовы і паўтарай за мной кожнае слова). *Лыска садзіцца пад куст)*. Я — воўк-ваўчышча!

Лыска *(паўтарае)*. Я — воўк-ваўчышча!

Воўк. У мяне хвост, як памялішча!

Лыска. У мяне хвост, як памялішча!

Воўк. Лапы шырокія! Вочы чырвоныя!

Лыска. Лапы шырокія! Вочы чырвоныя!

Воўк. Я вачамі свячу, лапамі падграбаю, хвастом замятаю!

Лыска. Я вачамі свячу, лапамі падграбаю, хвастом замятаю!

Воўк. Разбягаюцца звяры па бары, як пабачаць мае зубы і кіпцюры! *(Гыркае і паказвае гледачам свае зубы і кіпцюры)*.

Лыска. Разбягаюцца звяры па бары, як пабачаць мае зубы і кіпцюры! *(Гаўкае і паказвае гледачам свае зубы і кіпцюры)*.

Воўк. Ну вось і гатова! Цяпер трынаццаць разоў аббяжы куст лазовы. Потым па сцяжыне пакуляйся ды ў пясок укачайся. А я пайшоў. Будзь здароў!

*Воўк знікае.*

Лыска *(бегае вакол куста, лічыць)*. Раз, два, тры... трынаццаць! Засталося ў пясок укачацца — і зраблюся ваўком лабатым, дужым ды зубатым. *(Качаецца па сцяжыне, да гледачоў)*. Ну, што, дзеці, ці падобны я на ваўка лабатага, дужага ды зубатага?

Дзеці. Не! Не!

Лыска. А я вам не веру! Зараз вазьму і праверу! *(Прыслухоўваецца)*. Якраз сюды нехта ідзе — чуеце, дзеці? Схаваюся пад кустом ды напалохаю яго да смерці!

*Лыска хаваецца за куст. Выходзіць Кравец са швейнаю машынкай пад пахай і сукаватай палкай у руцэ.*

**Заканчэнне ў наступным нумары**

## Вясёлы куточак

* * *

Юрка неяк прыйшоў у школу з моцна пабруджанай шыяй. Настаўніца, убачыўшы яго, выняла хустачку, змачыла яе адэкалонам, выцерла Юрку пляму на шыі і паказвае:

— Што ты скажаш на гэта?

— Гэта была хімічная чыстка.

* * *

— Дзе ты сваё пасведчанне падзеў? — пытаецца ў Юркі мама.

— Я яго Коліку пазычыў. Няхай ён ім сваіх бацькоў пастрашыць.

* * *

— Ну як, Пеця, сёння прайшоў твой урок музыкі? — пытаецца мама.

— Добра, — адказвае сын. — Мабыць, я пачаў вельмі добра граць, бо настаўніца мела слёзы на вачах.




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

— 16 —

Скарыну, нарэшце, выпускаюць з турмы. Паводле спецыяльнай граматы караля, да якога вымушаны быў звярнуцца Францыск, спыняецца і ўся судовая цяганіна. Больш таго, паводле кракаўскіх распараджэнняў, Скарына цяпер наогул не падлягаў судам ніжэйшай ступені, а толькі каралеўскаму суду. Відаць, улічвалася і тое, што Францыск служыў у віленскага біскупа, які быў сынам Зыгмунта I.

Але ўсё гэта прыходзіць занадта позна, калі ўсе душэўныя сілы былі вычарпаны, калі ніякіх надзей на выданне новых кніг ужо не засталося.

Некалі віленскія багацеі яшчэ прыхільна глядзелі на Скарынаў друк і былі не ад таго, каб і самім укласці грошы ў новую друкарскую справу. Іх грэла яшчэ спадзяванне, што гэтыя грошы з лішкам акупяцца. Цяпер жа, убачыўшы, што ніякага даходу кнігі не прыносяць, яны зусім адвярнуліся ад Скарыны.

Скарына апынуўся між двух агнёў. Каталіцкая царква ў Вільні крывым вокам глядзіць на яго кнігі, скіраваныя да яе непрыяцеляў — праваслаўных. А Праваслаўная царква ў Маскве абвінавачвае Скарынавы кнігі ў адступленні іх ад царкоўных канонаў. А набліжэнне царкоўнаславянскай мовы да простай народнай гаворкі — ці ж гэта не святакрацтва?!.

Жыццё ў Вільні рабілася ўсё больш невыносным. Дзве смерці — жонкі і роднага брата ў адзін год! — гэта як вытрымаць? Двое сыноў пакінула сіротамі. А гэтая дакучная служба ў біскупа — як усё апрыкрала!..

Скарына ўжо не мог хадзіць па гэтых вуліцах, між гэтых дамоў, дзе ўсё напамінала пра ранейшае жыццё, пра жонку, пра брата. Цяпер кожны ўспамін аддаваўся болем.

І міжволі ўставала, клікала да сябе Прага. Горад, з якім у Францыска назаўсёды павязаліся самыя лепшыя згадкі, надзеі.

І Скарына вяртаецца ў Прагу. Як быццам можна вярнуць маладосць...

Але няшчасці і там не пакідаюць Францыска. У вялікім пражскім пажары 1541 года згарыць ягоны сын. Праўда, Скарына ўжо ніколі не даведаецца пра ягоную смерць, бо ўсё гэта адбудзецца пасля смерці самога Францыска.

Мы не ведаем дакладна, калі памёр Скарына, але дакладна ведаем, з паведамленняў чэшскага летапісца, што к 1541 году, калі адбыўся пажар, яго ўжо не было ў жывых.

А пакуль што Францыск ідзе знаёмымі вулачкамі „вялікага і старога горада“, як ён з замілаваннем называў у сваіх прадмовах Прагу, што калісь дала прытулак яму і яго вялікай справе.

Зноў вярталіся ў памяці тыя поўныя натхнення і парывання лепшыя часіны жыцця, калі ён дні і ночы сядзеў за сталом, рыхтуючы рукапісы, робячы пераклад, пішучы прадмовы і пасляслоўі, радуючыся ўдалым гравюрам і, нарэшце, трымаючы ў руках першыя друкаваныя адбіткі...

**Працяг будзе**
**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына“)**

## Пазнаёмімся

Наша рэдакцыя атрымала гэтымі днямі пісьмо з Мінска, са школы № 170, якая з 1 верасня гэтага года стала школай толькі з беларускай мовай навучання.

*Польшча, Беласток,*
*Рэдакцыя „Нівы“.*

*Шаноўныя суайчыннікі!*

*Да Вас звяртаюцца сябры Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны. Гэта грамадская арганізацыя ставіць перад сабой задачу адраджэння беларускай мовы і культуры не толькі сярод жыхароў Беларусі, але і сярод сваіх суайчыннікаў за межамі Беларускай рэспублікі. Шмат школьнікаў у Беларускай ССР хочуць мець культурныя кантакты з беларусамі-аднагодкамі, якія жывуць за межамі БССР.*

*Сярэдняя школа № 170 горада Мінска жадае ўстанавіць кантакты з беларускай школай на Беласточчыне. Так дзіцячы хор „Крынічка“ гэтай школы жадае выступіць з канцэртамі ў Польшчы і адначасова запрасіць аналагічны калектыў беларускіх дзяцей з Беласточчыны да сябе ў Мінск. Пражыванне і ўтрыманне дзяцей у Мінску забяспечваецца ў сем'ях школьнікаў. Спадзяемся на аналагічныя ўмовы ў Польшчы.*

*Наш адрас: 220055, Беларуская ССР, г. Мінск, вул. Рафіева 7, СШ № 170. Тэлефон 71-24-04 або 71-69-22.*

*Дырэктар школы*
*Г. М. Стаднікава*
*Мастацкі кіраўнік хору*
*А. Р. Гуляева*

*1 кастрычніка 1990 г.*
*Старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны*
*праф. А. Грыцкевіч*

## АДГАДАНКА




*На малюнку бачыш кавалкі пабітай талеркі, такой, як намалявана ў сярэдзіне. Талерка, разбітая ў чарапкі, уся тут. Але адзін чарапок яшчэ і лішні. Знайдзі яго.*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ДАЙЦЕ РАДЫ

*Словы М. Ясеня*
*Музыка В. Войціка*

Дайце рады, як мне жыць,
Што з дзяўчатамі рабіць?
То адна, ці то другая
Кажуць: „Я цябе кахаю!".
Тут пільнуе мяне Аня,
Там вартуе мяне Таня.
Для мяне каханне драма —
Страціў дваццаць кілаграмаў. Эх!

Дайце рады, як мне жыць,
Што з дзяўчатамі рабіць?
То адна, ці то другая
Кажуць: „Я цябе кахаю!".
Я куды ні аглянуся —
То Марыся, то Ганўся.
З імі толькі мне турботы —
Ледзьве я цягаю боты. Эх!

Дайце рады, як мне жыць,
Што з дзяўчатамі рабіць?
То адна, ці то другая
Кажуць: „Я цябе кахаю!".
Тут жартуе са мной Ніна,
Там рагоча Кацярына.
У мяне тры валасіны
Засталося ад чупрыны. Эх!

Дайце рады, як мне жыць,
Што з дзяўчатамі рабіць?
То адна, ці то другая
Кажуць: „Я цябе кахаю!".
Абдымае сёння Зіна,
Заўтра лашчыць Аляўціна.
Калі згоду дасць Данўся,
Дык... вазьму і ажанюся! Эх!
Толькі як скажыце быць?
Што мне... з жонкаю рабіць?! Эх!

ДАВОЛІ ХУТКА

Дай_це ра_ды, як мне жыць, што з дзяўча_ та_ мі рабіць? То ад_на, ці то друго_я ка_ жуць: "Я ця_бе ка_ ха_ ю!" Тут пільну_е мя_не А_ня, там вартуе мя_не Та_ня. Для мя_не ка_ хан_не дра_ма—страціў дваццаць кілаграмаў. Эх! Для заканчэння Эх! a tempo Толькі як, ска_ жы_це быць? Што мне... з жонкаю ра_ біць?! Эх!

# НІВА



## ПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

713
На жаль, на самога сябе чалавек можа глядзець толькі здалёк і ацэньваць сябе толькі прыблізна.

714
Для некаторых дарога ад праўды да маны змяшчаецца ў пядзі, затое шлях ад маны да праўды — не ўкладваецца ў вярсту.

715
Часта ідэі смяротных людзей бываюць несмяротнымі.

716
Ёсць псеўдабеларусы, якія замест таго, каб сэрцам заглыбляцца ў беларускасць, зубамі заглыбляюцца ў нямілых ім беларускіх дзеячоў.

717
Чым горшае робяць рукі, тым лепшае гавораць словы.

718
Бываюць людзі, якія весялеюць, калі пабачаць сумнага, і маркатнеюць, пабачыўшы вясёлага.

719
Бяда нас знаходзіць намнога часцей, чым мы знаходзім шчасце.

**Алесь Барскі**

## ПРА РЫГОРА ФЁДАРАВІЧА

Рыгор Фёдаравіч падумаў-падумаў і рашыў выйсці з федэрацыі, стаць суверэнным і незалежным. Узяў ручку і напісаў заяву з патрабаваннем прызнаць яго такім. Пайшоў ён з заявай дзе трэба, а там яму кажуць:

— Спазніліся, таварыш, вы асталіся апошнім, усе астатнія ўжо даўно выйшлі, так што вам, па сутнасці, няма адкуль выходзіць. Жывіце так, як ёсць.

* * *

Усе навокал усё крытыкуюць, а Рыгор Фёдаравіч — не. Ніякай крытыкі ад яго не пачуеш. І яго ўзялі і арыштавалі ноччу, як ворага галоснасці і плюралізму.

* * *

Думаў-думаў Рыгор Фёдаравіч і вырашыў стварыць супольнае прадпрыемства. Вось толькі не ведае з кім. А тут француз трапіўся.

— Давай, — гаворыць Рыгор Фёдаравіч французу, — арганізуем супольнае прадпрыемства.

— Навошта? — не можа зразумець француз.

„Дзіўныя гэтыя французы, — падумаў Рыгор Фёдаравіч, — да гэтай пары не могуць зразумець, што за супольным прадпрыемствам — будучыня".

**Генадзь Папоў**

## АНЕКДОТЫ АД НІКУЛІНА

Ідзе чалавек па вуліцы і бачыць чаргу. Пытаецца:

— Што даюць?

Яму адказваюць:

— Шырлы і мырлы.

Стаў чалавек, дзве гадзіны прастаяў, падыходзіць яго чарга і ён гаворыць прадаўцу:

— Дайце мне кілаграм шырлы і кілаграм мырлы.

— А шырлы ўжо скончыліся.

— Тады зважце два кілаграмы мырлы.

Узяў чалавек пакет, прыносіць дадому, разгортвае, а там шырлы.

* * *

У лазні два малыя хлапчукі ўбачылі голага мужчыну з вялікім жыватом. Пытаюцца яго:

— Дзядзя, а што ў цябе ў жываце?

— Бомба.

Адзін з хлапчукоў ціха гаворыць другому:

— Давай узарвем яе.

— Небяспечна. Вельмі кароткі кнот.

* * *

Па распаленай пустыні коціцца нулік і пад адным з кактусаў заўважае васьмёрку:

— Вось табе! Такая гарачыня, а яны каханнем займаюцца.

(„Огонёк")



* * *

П'яны мужчына прыстае на вуліцы да жанчыны:

— Прабачце, паненьце, колькі гузаў у мяне на галаве!

— Дзіўнае жаданне, — адказвае жанчына, — але калі просіце, дык палічу. Усіх разам пяць.

— Вельмі дзякую. Яшчэ два і буду дома.

* * *

Настаўнік хоча паказаць вучням, як алкаголь уплывае на жывы арганізм. У слоік са спіртам укідвае таракана. Той скручваецца і здыхае.

— Які вывад можна зрабіць з гэтага эксперымента?

— Калі хто п'е гарэлку, то ў яго не будзе чарвякоў, — адказвае вучань.

Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 3.250 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— listopad — 5.200 zł,
— grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5031-3203-132.
Zam. 1470/90.